# Зьмест



158




**Студэнцкая думка**
**N 9 (69) 2001 г.**

**Заснавальнік:**
грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"

**Выдавец:**
рэдакцыя "Студэнцкай думкі"

**Рэдактар**
Ірына Віданава

**Намесьнік рэдактара**
Мікола Шакель

**Стыль і карэктура**
Алена Беляеўская

**Дызайн вокладкі, вёрстка й афармленьне**
Аляксандар Мазанаў

**Малюнкі**
Натальля Лазука

**Здымак на вокладцы**
Андрэй Багамолаў



**Адрэса рэдакцыі:** г. Менск, вул. Асаналіева, 30-3

**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19

**Пэйджэр (для рэклямадаўцаў):** (017) 211 85 85, абанэнт 6675

**Адрэса для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90

**Адрэса ў Інтэрнэце:** www.studumka.com

**E-mail:** studumka@tut.by



Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.



Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.

Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопісу "Студэнцкая думка". Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.

Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.



*Надрукавана ў ДУП "Прамдрук", 220000, г. Мінск, Чарняхоўскага, 3. Ліцэнзія ЛП № 126 ад 30.12.1997 г.*
*Фармат 60x84 1/8*
*Папера афсэтная 65 г/м²*
*Падпісана ў друк 24.09.01*
*Замова №* [illegible]
*Наклад 2000 асобнікаў*
*Кошт свабодны*


Прывітаньне ўсім! Даўно мы ня бачыліся! Мінуў цэлы месяц, і шмат што зьмянілася. Мы зноўку вучымся (ну, прынамсі, павінны), зноўку тусуемся ўсе разам. Во й на выбары схадзілі... Памятаеце баўгарскую показку: прыйшоў на выбарчы ўчастак пастух з далёкага хутара й пытаецца: "А дзе тут у вас, дзетачкі, галасаваць?" "А тутака, дзеду!" – адказваюць яму. І той як загалосіць немым галасам... Прыкладна тое ж і ў нас. З адным толькі адрозьненьнем: мы спачатку прагаласавалі, а цяпер будзем галасіць. Ведама, ад якіх эмоцыяў. У сваім матэрыяле **Стася Куніцкая** прапануе паразважаць на гэтую тэму.

Традыцыйна лічыцца, што навучальны год пачынаецца менавіта ў верасьні. А вось студэнты некаторых ВНУ на зайздрасьць усім астатнім дагэтуль адпачываюць – іхні "час Х" надыдзе 1 кастрычніка. Менавіта для іх (а таксама для тых, хто ўжо пасьпеў стаміцца ад лекцыяў ды сэмінараў альбо яшчэ папросту там ня быў) мы працягваем "адпачынкавую" тэму. **Лета Пляжная** і **Алена Беляеўская** парадуюць вас сёньня падрабязнымі справаздачамі пра свае летнія (і не зусім) ваяжы. Да таго ж, нарэшце вярнулася ў рэдакцыю засланая намі яшчэ 31 жніўня на рыцарскі фэст "Сівая легенда" **Дар'я Сітнікава**. Ну-ну, пачытаем, чым яна там займалася.

Затое **Сяргей і Зьміцер Зікрацкія** займаюцца канкрэтнай справай. Сёньня яны адчыняюць на старонках "CD" цалкам бескаштоўную (!) юрыдычную кансультацыю. Так што калі праблемы здаюцца невырашальнымі, а жыцьцё – пазбаўленым сэнсу, зусім не абавязкова глядзець вар'яцкую рэкляму на БТ. Тэлефануйце альбо пішэце братам Зікрацкім – праблемаў ня будзе. Асобны зварот да тых, у каго ад тае рэклямы ўжо пачаў зьяжджаць дах: артыкул пра асьпірантуру – гэта для вас! У гэтым нумары **Тацяна Сапега** распавядае пра асьпірантуру БДзУК (Божухна, які мэлядычны назоў!).

Стася Куніцкая

# Сумныя, але чаканыя навіны


IREX/ProMedia

*75,62:15,29. Гэта амаль канчатковы афіцыйны вынік барацьбы Лукашэнкі й Ганчарыка за галасы электарату. Ня ўлічанымі пакуль застаюцца прыхільнасьці кітайскіх, расейскіх ды іншых замежных беларусаў. На момант выхаду нумару й гэтыя лічбы будуць вядомыя. Але яны наўрад ці зьменяць сытуацыю. Значыцца, як мінімум на наступныя пяць год нам давядзецца забыцца на перамены. Ва ўсялякім выпадку – да лепшага.*

Зрэшты, звычайна грамадзтва вартае свайго кіраўніка. Радасьці чальцоў БПСМ, прыкладам, няма межаў. Безьліч больш сталага люду таксама задаволеная вынікамі галасаваньня. Астатнія галасавалі не за Ганчарыка, а супраць Лукашэнкі. Былі й тыя, хто адзначалі ў бюлетэнях Лукашэнку, імкнучыся прадухіліць прыход да ўлады прафсаюзьніка. Нават калі б увесь народ абіраў, ЗА каго аддаваць свае галасы, а ня СУПРАЦЬ каго, перамога дасталася б Лукашэнку. Яе забясьпечылі беспрэцэдэнтныя па сваіх маштабах фальсыфікацыі.

У Менску, дзе сноўдаліся сотні міжнародных і айчынных назіральнікаў, захоўвалася хаця б фармальная законнасьць працэсу. Зрэшты, двухгадзінны паход па 15-х участках даволіў бы ўважліваму чалавеку налічыць дзясяткі выпадкаў ігнараваньня выбарчага заканадаўства нават у сталіцы. Што да правінцыйных участкаў для галасаваньня, дык там не даводзіцца казаць нават пра фармальныя спробы выкананьня законаў.

Па пратаколы парушэньняў цікаўныя могуць зьвярнуцца ў праваабарончыя цэнтры ці да незалежных назіральнікаў, якія, дарэчы, ня надта спрыялі забесьпячэньню дэмакратычнасьці й справядлівасьці выбараў. У момант, калі выбаршчык заўважаў, прыкладам, што ягоны бюлетэнь ёсьць усяго толькі непадпісанай копіяй сапраўднага дакумэнту, і азіраўся ў пошуках назіральніцкае дапамогі, на месцы для наглядальнікаў ляжала толькі чыясьці куртка.

Зьвернем увагу на афіцыйную дынаміку падліку галасоў. Увечары 9 верасьня, а палове на дзясятую, Цэнтравыбаркам быў азнаёмлены з волевыяўленьнем 1,16% менчукоў. Тым часам колькасьць прааналізаваных бюлетэняў у Менскай вобласьці перавысіла 30%. Адылі, калі праз паўгадзіны менскі паказчык падрос да 6,5%, да абласное лічбы прыплюсавалі ажно 40%. Адразу відаць, дзе да справаздачы рыхталіся загадзя, а дзе давялося сумленна падлічваць галасы.

Вынікі галасаваньня не былі шокавымі для грамадзтва. Усе ведалі, як скончыцца гэтая кампанія. Тым ня менш, разгубленасьць і падаўленасьць у першыя гадзіны пасьля абвяшчэньня афіцыйных дадзеных занялі месца цьмянае





надзеі ў душах дэмакратаў. Было ад чаго засмучацца. На раскрутку адзінага кандыдата ад апазыцыі была выдаткаваная надзвычайная колькасьць інфармацыйных рэсурсаў. Гаворка йдзе ня толькі пра адмысловыя артыкулы ў незалежнай прэсе, пра спэцвыпускі, прысьвечаныя выбарчай тэматыцы, ды пра этэры на радыё "Свабода" й "Рацыя". Верай і праўдай служылі адзінаму "зубраняты". У сваіх улётках яны бывалі да прымітыўнасьці непасрэднымі й да жорсткасьці бескампраміснымі. Але ім гэта даравальна. Яны – незарэгістраваная й незарганізаваная ініцыятыва. Дзеці вуліцы. Страшна робіцца, калі пачытаць афіцыйныя прэс-рэлізы і ўнутраныя агіткі БПСМу, які адкрыта падтрымлівае Лукашэнкава адміністрацыя.

Ня будзем цытаваць плюгкасьці з гэтых паперак. Адзначым толькі, за што прэзыдэнцкія арляняты ўдзячныя свайму бацьку – за жыцьцё не па-эўрапейску. Да непрыстойнасьці сталага веку піянэры баяцца Эўропы болей, чым індзейцы Цэнтральнае Амэрыкі пужаліся калісьці каляністаў. Для іх Эўропа – гэта перадусім высокія кошты на навучаньне. Яны ўдзячныя свайму бацьку за тое, што могуць не плаціць, абараняючы дыплёмы. Але ні для каго не сакрэт, што ўзровень беларускіх ВНУ год ад году пагаршаецца. Гэта было адзначана нават у апошняй усясьветнай ААНаўскай справаздачы. Да таго ж, студэнтам-платнікам даводзіцца адлічваць на сваё навучаньне грошы ня меншыя, чымся сярэднестатыстычным эўрапейскім навучэнцам.

Розьніца паміж заходнімі й беларускімі студэнтамі – у наяўных магчымасьцях самарэалізацыі. Чым бліжэй да Атлянтыкі, тым большыя шанцы на прэстыжную стажыроўку, добрую працу (ня толькі пасьля атрыманьня магістарскае ці бакалярскае ступені, але й цягам навучаньня). Гэтаму спрыяюць шматлікія праграмы міжнародных абменаў, падвышэньня кваліфікацыі, атрыманьня дадатковае адукацыі. Для эўрапейскіх студэнтаў адчыненыя найлепшыя бібліятэкі. Інтэрнэт для іх – рэч, пэўне, больш звыклая й неабходная, чым для нас тэлефон.

Тым часам у Беларусі зачынілі свае прадстаўніцтвы *British Council* і *Accels*. Не без дапамогі першага прэзыдэнта. Яшчэ раней згарнулі свае адукацыйныя праекты фонд Сораса й *Tacis*. Мяркую, не таму, што ў Беларусі няма з кім працаваць. Па ацэнках ужо згаданых ААНаўцаў, колькасьць юнакоў і дзяўчат, што ймкнуцца да новых дасягненьняў у сфэры тэхнічных і натуральных навук, у нас большая, чым у Нямеччыне, Вялікай Брытаніі, Амэрыцы й Нарвэгіі. Беларусаў дагэтуль радыя вітаць у маскоўскім прадстаўніцтве Брытанскае Рады. Дык чаму імкненьне стацца клясным адмыслоўцам мусіць прабіваць сабе дарогу ў надзвычай цесным бюракратычным лябірынце з абмежаванай колькасьцю выйсьцяў?

Прэзыдэнцкая моладзь баіцца Эўропы, бо там надзвычай дарагое жытло. У Беларусі, маўляў, яно таньнейшае, а камунальныя паслугі ледзь не бясплатныя. Рэальна за амаль дармавое цяпло й сьвятло плацяць вытворцы па прынцыпе перакрыжаваных субсыдыяў. Хаця плацяць – гэта гучна сказана. Запазычанасьці прамыславікоў канцэрну "Белэнэрга" вымяраюцца сотнямі мільярдаў BYB.

Танныя кватэры таксама даступныя толькі адзінкам. Ільготы існуюць для вельмі абмежаванага слою моладзі. Адной з абавязковых умоваў для ўдзелу ў адмысловай дзяржаўнай праграме мусіць быць БПСМаўская актыўнасьць. Ад практыкі льготных крэдытаў для моладзі ва ўрадзе даўно ўжо адмовіліся: яна апынулася занадта стратнай для дзяржавы. Атрымаць крэдыт на звычайных умовах таксама нерэальна. Зь беларускімі заробкамі разьлічыцца па ім будзе вельмі праблематычна. Дый не даюць сур'ёзных крэдытаў студэнтам падпарадкаваныя дзяржаве банкі.

А ў страшнай Эўропе жыцьцё для моладзі па крэдытках – звычайная рэч. У росквіце сваёй кар'еры былыя студэнты бязь цяжкасьцяў разьлічваюцца з банкамі й маюць дастаткова сродкаў, каб забясьпечыць сабе цікавае баўленьне часу на пэнсіі. Вяртаючыся да рэальнага кошту жытла, адзначым, што для таго, каб самастойна зарабіць на кватэру ў 60 квадратных мэтраў, сярэдняму беларусу патрэбна больш як 26 год самаадданае працы. Ужо ў Польшчы гэты час абмяжоўваецца чатырма з паловай гадамі.

Адкінуўшы ўбок матэрыяльны аспэкт існаваньня пры Лукашэнку, вернемся да высноваў, якія зрабілі для сябе назіральнікі ад міжнароднае супольнасьці. АБСЭшнікі агучылі хаця й збалянсаваную, але вельмі адназначную заяву. Дэлегаты не былі надзеленыя паўнамоцтвамі камэнтаваць вынікі выбараў, але працэс галасаваньня і ўмовы, у якіх ён ажыцьцяўляўся, ня могуць быць прызнаныя дэмакратычнымі, справядлівымі й роўнымі для ўсіх кандыдатаў. Высновы пра непрызнаньне прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі былі зробленыя


IREX/ProMedia

Стася Куніцкая

Стася Куніцкая

ячшэ напярэдадні дня афіцыйнага галасаваньня. Нават паказушная бездакорнасьць у арганізацыі працэсу 9 верасня ня здолела б зьмяніць меркаваньне экспэртаў.

Замежнікі адзначылі амаль поўную адсутнасьць прагрэсу ў выкананьні 4-х умоваў, абвешчаных у мінулую восень. Аднак агульная грамадзка-палітычная сытуацыя ў Беларусі за гэты час трошкі палепшылася. Усе станоўчыя моманты, заўважаныя замежнікамі, былі дасягнутыя высілкамі аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Іншаземцы ўхвалілі зародкі грамадзянскае супольнасьці, іх еднасьць і наяўнасьць выбару ў беларускага электарату.

Аднак агульная палітычная сытуацыя ў нашай краіне прымушае замежнікаў казаць пра адсутнасьць ня толькі дэмакратыі, але й цывілізаванасьці. Гаворка йдзе пра пэрманэнтныя пагрозы выкінуць кансультатыўна-назіральную групу АБСЭ й яе кіраўніка Ханса-Георга Віка зь Беларусі. Эўрапейцы й радыя б былі дапамагчы апошняй у Эўропе аўтарытарнай дзяржаве выйсьці на шлях дэмакратычных пераўтварэньняў, але абарыгены не дазваляюць. Можна толькі ўявіць, якое непаразуменьне ўсталявалася паміж беларускімі ўладамі й замежжам, калі галоўны экспэрт АБСЭ па беларускім пытаньні Жэрар Штудман, не стрымаўшыся, заявіў: *"У ацэнках беларускімі ўладамі дзейнасьці КНГ АБСЭ зашмат паранаі"*.

Параноя й палітычная недальнабачнасьць ахапілі ня толькі чынавенства. Блізу паловы беларускага грамадзтва ня бачыць для сябе лепшага лёсу, як дажываць свой век у прэзыдэнта пад крыльцам. *"Як у Бога за пазухай"*, – кажуць прыхільныя да Лукашэнкі людзі, не ўяўляючы, колькі яны згубілі, намаляваўшы крыжык у трэцім зьверху квадраціку бюлетэню. ■

# Хацелі як лепей...

Дар'я Сітнікава

*"Идиот! Чего двери ломаешь?!" Такая вось неадэкватная рэакцыя бабулькі салiднага ўзросту і крыху іншага выгляду на зьяўленьне ў электрацыі кірунку "Менск–Ворша" маладзёна ў... кальчузе і зь яўна ня цацачным мячом. Праз момант астатнія пасажыры вымушаныя былі надаць сваім вачам сфэрычную форму – адным "ненармальным" справа не абышлася. Па салёне цягнулася калёна людзей, апранутых у строі даўно мінулых дзён. Заключэньне публікі адназначнае: артысты. І, няма сумневу, зь "Беларусьфільму".*

...А на самой справе гэта былі рыцары і прыўкрасныя дамы, якія грамадзкім транспартам дабіраліся да месца чарговага фэстывалю – старажытнага Друцку. З 31 жніўня па 2 верасьня там праходзіў рыцарскі фэст "Сівая легенда". Дзея адбывалася ў рамках сьвяткаваньня 1000-годзьдзя гэтага некалі буйнога гандлёвага цэнтру Беларусі. Ідэйным натхняльнікам мерапрыемства выступіў сам магістар Ордэну Паўночнага Храму Зьміцер Нясьцюк. Акрамя храмоўнікаў, арганізацыю на сябе ўзялі выканкамы розных узроўняў. Інфармацыйную падтрымку "ласкава" прэзэнтавала БТ. Відаць, таму пра фэст можна было даведацца хіба з газэтаў.

**А бабця думала – "Беларусьфільм"...**







Рыцар з Карэі

## РасфэстыВаліліся...

"Сівая легенда" – трэцяя настойлівая спроба ў гэтым сэзоне як сьлед пафэстываліць. Аматарам рыцарскіх сходак пашанцавала незвычайна. Прынамсі, у пляне колькасьці. Дзякуй трэба, пэўна, казаць тым рыцарскім клюбам, што падпісалі адкрыты ліст "Чаму мы ня едзем на турнір у Мядзел", які і стаўся прычынай "фэадальнага разладу". Вось так і нарадзілася ў рыцарскім руху здаровая канкурэнцыя. Што да дадзенага выпадку, то арганізатары былі катэгарычныя ад самога пачатку – "Павесялімся слаўна. Прысягаем гонарам!"

## Героі дня

Геаграфія і колькасьць удзельнікаў былі, так бы мовіць, не зусім такія, як чакалася. З 40 абяцаных клюбаў зь Беларусі, Расеі, Польшчы й краінаў Балтыі да месца прызначэньня прыбылі каля 10 беларускіх аб'яднаньняў, 2 (два) ваяры з польскай філіі Ордэну Паўночнага Храму, некалькі расейцаў і... усё. Заяўлены "буйнамаштабны" фэст паціху трансфармаваўся ў "міжсабойчык".

Увогуле, мерапрыемства атрымалася ў нечым парадаксальнае. Пікантна выглядала прысутнасьць у шэрагах беларускіх тампліераў, а потым і пасьвячэньне ў рыцары Ордэну непасрэдна вялікім магістрам Несьцюком – каго б вы думалі? – самага сапраўднага карэйца! Група апэратараў карэйскага TV, аказваецца, здымала фільм. Такія гістарычна-расавыя пераўтварэньні, па афіцыйных сьцьверджаньнях, сталі магчымымі выключна з-за дружбы народаў і павальнай высакароднасьці айчынных рыцараў, а не з мэркантыльных інтарэсаў мясцовых храмоўнікаў (Божа барані!). Праўда, гэта не перашкодзіла "клапатлівым" дамам выставіць таксу за фатаграфаваньне з такой "экзотыкай" у памеры 300 рублёў. А нядобразычліўцам – падазраваць, што аднымі ідэаламі справа "яднаньня" ніяк не абышлася.

## Далей – болей

Дар'я Сітнікава

Натоўп гледачоў чакаў на шостую вечара (час афіцыйнага адкрыцьця), на адважных вояў ды пекных дамаў, на грандыёзныя відовішчы. З усяго вышэйпералічанага своечасова зьявілася толькі шостая вечара. Без адкрыцьця. Яго, дарэчы, ніхто так і не пабачыў...

Яшчэ адным арганізацыйным сюрпрызам было "датэрміновае" вянчаньне рыцарскай пары. Маладыя ня вытрымалі і вырашылі засьведчыць свае адносіны роўна на 23 гадзіны раней за абяцанае. Так што сьлёзна-замілаваных водгукаў ня будзе.

Першы дзень пачаўся з цэнтралізаванага вывазу мужных ваяроў на начны бугурт у Талачын, дзе ўжо на ўсю моц сьвяткаваўся юбілей Друцку (?!).



Сэк'юрыці

Дар'я Сітнікава

Далей – болей. Аказваецца, творчасьць гурту "Руки вверх" энд кампані найлепшым чынам адпавядае "начному канцэрту" на сярэднявечным фэсьце, а купка моладзі, што танчыла пад гэтыя "шэдэўры", – нішто іншае, як "тэатральная праграма". Пасьля таго як сёй-той з рыцараў пад "Солнышко мое – вставай!" ледзь у чарговы раз не падавіўся вячэрай (карміпі-паілі, між іншым, нябпага), кружэлку нарэшце зьмянілі. На сцэне па чарзе зьяўляліся то ўнікальны Алесь Журо ў кампаніі з дудой, то непараўнальная Тэм (адна са стваральнікаў рок-опэры "Тампль") са сваімі балядамі пад гітару. Рыцарскі й набліжаны да яго люд забалдзеў, упаў у эўфарыю. У той час, калі мясцовае насельніцтва ў асобах найбольш актыўных сваіх прадстаўнікоў гучна пыталася, як пад "такое" танчыць. У рэшце рэшт, засынала я пад "Иванушек Int."...


Роланд Мак Гір ("Дзікае паляваньне") і дудар Алесь Журо ("Ордэн Паўночнага Храму")

Факельны турнір ("фішка" дня) так і не адбыўся – не было факелаў! Так што ня меў адзін з гасьцей фэсту маральнага права на тую іронію, зь якой ён чытаў пункт у правілах: "Да ўдзелу дапускаюцца толькі цьвярозыя байцы". Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

Новы дзень дакладнасьці ў рыцарскія пляны ня ўнёс. Бравыя хлопцы ўжо з раніцы былі гатовыя. Змагацца за Друцкі замак, зразумела.

Дзесьці ў другой палове дня іх жаданьні з традыцыйным спазьненьнем ажыцьцявіліся. Кульмінацыя фэсту, якой і зьяўлялася бойка, выканала сваё прызначэньне – гэта сапраўды было варта ўбачыць і потым ужо не чакаць конных спаборніцтваў, турніраў лучнікаў, арбалетчыкаў, рыцарскіх гульняў і ўсяго астатняга.

Залпы з трэбушэта, агмень. А-я-яй! Ядро ледзь ня трапіла ў мужных абаронцаў, якія колюча-рэжучымі прадмэтамі імкнуцца перамагчы зьненавіднага ворага. Яшчэ }залп, яшчэ... Ворагі пад самымі сьценамі!.. Яны зараз уварвуцца ў горад!.. Скрыгат жалеза, лязгат мячоў, шмат "параненых", "забітых"... І вось апошні вораг абяззброены! Ура!!! Нашыя перамаглі!

Праўда, з "нашымі" выйшла маленькая недарэчнасьць. Абаранялі Друцкі замак хоць доблесныя, але ўсё ж тампліеры, а нахабна захапіць спрадвечны беларускі город спрабавалі сапраўдныя... ліцьвіны пад кіраўніцтвам вялікага князя Фёдара Міхеева ("Княжы Гуф").

Гістарычныя мэтамарфозы скончыліся, як заўсёды, ажываньнем забітых, сяброўскімі абдымкамі, бурнымі апладысмэнтамі.

На закуску пакінулі самае-самае – рыцарскі турнір і конкурс строяў. Мужныя воі, што й без таго выкладаліся ў папярэднія дні па поўнай праграме, вытрымалі-ткі астатняе выпрабаваньне лёсу. Доблесна-мужна-высакародна-слаўны Данфілд з Ордэну Паўночнага Храму – пераможца турніру.

Вось так і пагулялі. Але гэта яшчэ ня ўсё. 15–16 верасьня – фэст у Заслаўі!

Усё толькі пачынаецца...


Вось і я цяпер пры зброі!





Тацяна Сапега

# Асьпірантура Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту культуры

*Для асьпірантураў існуюць агульныя патрабаваньні, якія ёсьць аднолькавымі для любой ВНУ краіны. Яны тычацца правілаў паступленьня і арганізацыі навучальнага працэсу. Але асьпірантура кожнай ВНУ, натуральна, мае свае адметнасьці. Хачу падзяліцца з вамі сваім досьведам паступленьня і навучаньня ў асьпірантуры БДзУК (так-так, зь нядаўняга часу ўсім вядомы Беларускі ўнівэрсытэт культуры (БУК) атрымаў назоў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт культуры (БДзУК); таму калі ў вас узьнікне жаданьне паступіць у гэтую паважную ўстанову, то ганарыцеся, бо паступаеце амаль у БДУ, толькі яшчэ больш культурны).*

Па атрыманьні вышэйшай адукацыі вы маеце магчымасьць паступіць у магістратуру і асьпірантуру БДзУК. Навучаньне ў магістратуры доўжыцца адзін год, а па заканчэньні вы атрымаеце дыплём магістра. Адразу скажу, што, як вядома з практыкі, пры ўладкаваньні на працу па адпаведнай спэцыяльнасьці ў дзяржаўную ўстанову дыплём магістра не дае аніякіх прывілеяў. Магістратура разглядаецца як прамежкавы этап ад студэнцтва да асьпірантуры і, фактычна, толькі падаўжае на год навучаньне ва ўнівэрсытэце. Я, напрыклад, ня мела жаданьня паступаць у магістратуру, бо лічыла гэта марнаваньнем часу, і, пераскочыўшы праз магістратуру, адразу паступала ў асьпірантуру. Але для не менчукоў магістратура – магчымасьць ня зьехаць па размеркаваньні ў правінцыйную вёсачку, яшчэ на год застацца ў Менску, мець ложак у інтэрнаце, прапіску й хоць нейкую стыпэндыю.




У асьпірантуру прымаюцца асобы, што маюць вышэйшую адукацыю і схільнасьць да навуковых дасьледаваньняў. Трэба адзначыць, што магістранты маюць перавагу пры паступленьні ў асьпірантуру. За год навучаньня ў магістратуры яны могуць здаць ужо некаторыя кандыдацкія іспыты. А асобы, якія цалкам ці часткова здалі кандыдацкія, вызваляюцца ад адпаведных уступных іспытаў у асьпірантуру. Больш за тое, магістранты ўжо маюць рэфэрат па сваёй навуковай тэме, якую могуць і надалей распрацоўваць у асьпірантуры. Навуковую тэму можна не мяняць цягам студэнцкіх гадоў, а пасьля – у магістратуры і асьпірантуры (калі, натуральна, у вас не мяняецца навуковы кіраўнік і вы разам лічыце гэта мэтазгодным). Вядома, лепш, калі вы ў асьпірантуры працягваеце распрацоўваць тэму, па якой абаранілі дыплёмную і/ці магістарскую працу. Але часта тэму даводзіцца мяняць з розных прычынаў: вы мяняеце катэдру ці кіраўніка, тэма "ня цягне" на дысэртацыю й г. д. І тады ўсё трэба пачынаць з пачатку. Але ж, безумоўна, лепей зьмяніць тэму, чым пакутаваць з абрыдлаю тэмаю ці нялюбым кіраўніком.

Паступаць у асьпірантуру можна як па сваёй базавай, так і па іншай спэцыяльнасьці. Калі вы вырашылі памяняць спэцыяльнасьць, то вам неабходна будзе пры паступленьні здаваць іспыт па новай абранай спэцыяльнасьці. Вядома, у вас ня будзе праблемаў у такой сытуацыі, калі вы маеце кіраўніка-апекуна, зацікаўленага, каб ягоным асьпірантам сталі менавіта вы. Лягчэй бу-

Таццяна Салега

дзе, калі вы вырашылі зьмяніць спэцыяльнасьць на роднасную да вашай базавай адукацыі. Напрыклад, замяняльнымі могуць быць спэцыяльнасьці "музэязнаўства" – "культуралёгія" – "бібліятэказнаўства". Галоўнае, каб была зацікаўленасьць катэдры ў вашай асобе і ўзаемная згода.

У асьпірантуру можна паступіць на вочнае, завочнае навучаньне альбо спаборніцтва. Прынцыповай розьніцы між імі, што тычыцца патрабаваньняў да асьпіранта/спаборніка, я не заўважыла. Розьняцца яны ў тэрмінах навучаньня: вочнае ці з адрывам ад вытворчасьці – тры гады, завочнае ці без адрыву ад вытворчасьці – чатыры гады, спаборніцтва – пяць гадоў. Вочнік, да таго ж, атрымлівае стыпэндыю.

Уступныя іспыты ў асьпірантуру БДзУК, як і ў асьпірантуры іншых ВНУ, уключаюць іспыты па спэцыяльнасьці, замежнай мове й філязофіі ў аб'ёме дзейных праграмаў для ВНУ. Уступны іспыт па спэцыяльнасьці папярэднічае іспытам па іншых дысцыплінах. Пераздача ўступных іспытаў не дапускаецца.

За час навучаньня ў асьпірантуры асьпірант/спаборнік абавязаны цалкам выканаць індывідуальны плян працы. Індывідуальны плян уключае здачу кандыдацкіх іспытаў і залікаў, правядзеньне навуковых дасьледаваньняў па тэме дысэртацыі, падрыхтоўку артыкулаў, дакладаў, удзел у навуковых канфэрэнцыях, сэмінарах і г. д. Асьпіранты-вочнікі зазвычай здаюць кандыдацкія іспыты і залікі на працягу першых двух, а завочнікі – трох гадоў. Індывідуальны плян складаецца штогод, а паколькі часам цяжка прадбачыць усе сюрпрызы асьпіранцкага жыцьця, плян магчыма карэктаваць (вядома, у разумных межах). Асьпіранты, што ня выканалі ў прызначаныя тэрміны індывідуальны плян, выключаюцца з асьпірантуры. Але для гэтага, шчыра кажучы, трэба быць зусім ужо лайдаком. Калі ж такое здарылася, памятайце, што выключаныя да заканчэньня тэрміну навучаньня з асьпірантуры па важкай прычыне ці па асабістай заяве могуць быць адноўленыя на працягу трох гадоў.

# Чароўная ледзі са Швэцыі – Інгрыд Бэргман

Наталя Гардзіенка

*Я не сама жадала граць.*
*Гэта прыйшло да мяне мімаволі...*
*Інгрыд Бэргман*

*Будучая зорка кіно нарадзілася 29 жніўня 1915 году ў Стакгольме ў сям'і гандляра фота- і кінаапаратурай швэда Юстуса Самуэля Бэргмана і немкі Фрыды Адлер. Бацькі вырашылі назваць дачку ў гонар маленькай швэдзкай прынцэсы Інгрыд. Аднак, у адрозьненьне ад сваёй каранаванай цёзкі, маленькая "прынцэса" Інгрыд Бэргман ня мела шчасьлівага дзяцінства. Маці нечакана памерла, калі дачцэ споўнілася два гады. "Я зусім ня памятаю маці. Калі мне быў год, бацька здымаў мяне, калі я сядзела ў яе на каленях. Тое самае было і праз год... А ў тры ён сфатаграфаваў мяне, калі я ўскладала кветкі на ейную магілу..." – згадвала пазьней Інгрыд.*

Летуценны, поўны жаданьня знайсьці сябе ў мастацтве бацька, галоўнай жарсьцю якога было фатаграфаваньне, а пазьней здымкі на аматарскую кінакамэру сваіх сваякоў, ня здолеў замяніць дзяўчынцы маці. Ён больш займаўся ўласнымі справамі, шмат езьдзіў у пошуках лепшага прымяненьня сваіх мастацкіх здольнасьцяў, даручыўшы клопат пра дачку сваёй сястры, самотнай і хваравітай Элен. Менавіта гэтую жанчыну маленькая Інгрыд клікала мамай.

Інгрыд зь дзяцінства любіла пераапранацца і пераўвасабляцца: то яна паказвала для сваякоў сьмешныя сцэнкі з жыцьця старога сьвятара, то ўдавала п'янога гуляку... У яе быў цэлы набор вобразаў, якімі яна забаўляла шматлікіх дзядзькаў, цётак і іх дзяцей, каб зьвярнуць на сябе хаця б крыху ўвагі.

У сем год, як і ўсе ейныя пагодкі, Інгрыд Бэргман пайшла ў школу, а дакладней у жаночую гімназію, дзе навучалі мовам (швэдзкай, нямецкай, а потым і францускай), гісторыі, геаграфіі, шытву, кулінарыі ( зь якой у яе праз усё жыцьцё былі вялікія складанасьці) і г. д. Менавіта тут маленькая актрыса знайшла ўдзячных гледачоў для сваіх прадстаўленьняў. Школьныя каляжанкі з захапленьнем назіралі, як Інгрыд паказвае ў асобах сцэны з толькі што прачытанай на ўроку п'есы, ці слухалі пранікнёную дэклямацыю завучанага ўрыўку з паэмы...

Аднак стаўленьне сваякоў дзяўчынкі да гэткіх ейных схільнасьцяў было неадназначнае. Бацька, які чамусьці бачыў у дачцэ будучую сусьветна вядомую опэрную сьпявачку, нават заахвочваў ейныя акторскія захады, але ж пурытанскія сваякі лічылі захапленьні Інгрыд ня вартымі ўвагі і нават грахоўнымі. І тым ня менш, калі ва ўзросьце дванаццацёх год дзяўчынка ўпершыню наведала Каралеўскі драматычны тэатар, яна зьведала сапраўдны шок: "Яны тут на сцэне робяць тое, што я раблю для свайго задавальненьня дома, і яшчэ атрымліваюць за гэта грошы?!" "Вось гэтым я й буду займацца!" – паведаміла малая бацьку.

Ад прыроды таленавітая акторка, Інгрыд Бэргман змалку пакутавала праз сваю зьнешнасьць – яна была надзвычай высокая для свайго ўзросту і праз усё жыцьцё ня мела патрэбы ў абцасах. "Я ненавідзела школу, – згадвала пазьней акторка, – таму што была вышэйшая за іншых, нязграбная і сарамлівая. Ня тое каб зусім ціхмяная, але далучалася да размовы толькі тады, калі да мяне зьвярталіся. Калі мне выпадала адказваць на пытаньні настаўніка, дык адная неабходнасьць устаць перад клясай прымушала мяне чырванець..."

У 1929 годзе сьмяротна захварэў на рак і памёр бацька. Па хуткім часе дзяўчыну напаткаў яшчэ адзін удар. Гэтаксама нечакана ня стала й тае жанчыны, што замяніла Інгрыд маці, – "цёткі Элі". Страта блізкіх людзей паказала пятнаццацігадовай Інгрыд хісткасьць і нетрываласьць чалавечых адносінаў, прымусіла зь яшчэ большай моцай адчуць адзіноту. Адзінае выйсьце для сябе яна знаходзіла ў тэатры. "Тэатар быў для мяне нечым кшталту схованкі. Самотныя, няздольныя знайсьці сябе людзі часта прыходзяць у тэатар, таму што там можна апрануць на сябе маску. Гэта дапамагае пазбавіцца таго, чаго вы баіцеся. На сцэне вы гаворыце тое, што напісана ня вамі, і той, каго вы граеце, ня вы. Гэта ўцёкі ад жыцьця", – сьцьвярджала Інгрыд. І яна сапраўды "ўцякла" ў тэатар.

У 1932 годзе, па заканчэньні гімназіі, Інгрыд Бэргман вырашыла паступаць у школу Каралеўскага драматычнага тэатру. І сталася адной зь нямногіх, хто ўдала вытрымаў сумоўе. Больш за тое, ужо на ўступным іспыце выкладчыкі зазначылі, што дзяўчына мае прыродны талент. А падчас навучаньня Інгрыд на першым курсе рэжысэр Каралеўскага драматычнага тэатру нават вырашыў прапанаваць ёй ролю ў п'есе, аднак гэта супярэчыла традыцыям школы, і ад такога намеру давялося адмовіцца. У гэты ж час маладая акторка займела першы любоўны раман з больш вядомым і сталым акторам і празь яго – сваю першую магчымасьць зьняцца ў кіно. Дэбют у карціне "Граф з Мункбру" быў вельмі ўдалы: Інгрыд заўважылі і крытыкі, і рэжысэры – сталі зьяўляцца новыя прапановы. У выніку акторка вырашыла сысьці з тэатральнай школы і цалкам прысьвяціць сябе кіно. Што, натуральна, выклікала супраціў настаўнікаў, якія, аднак, нічога не маглі зрабіць...

Кар'ера маладой Бэргман на швэдзкай кінастудыі складалася вельмі ўдала. Яна зьнялася за пяць год у сямі стужках, пры гэтым у яе зьявіўся рэжысэр Густаў Муляндэр, які ствараў карціны менавіта для яе. У 1937 годзе яе назвалі лепшай акторкай Швэцыі. Найбольш удалая са стужак Інгрыд – "Інтэрмэцца" – была заўважаная нават ў Галівудзе. Аднак перш чым гэта адбылося, Бэргман пасьпела 11 ліпеня 1937 году пабрацца шлюбам з таленавітым дантыстам Пэтэрам Ліндстрамам. Гэты чалавек зрабіўся на доўгі час ейным апірышчам: ён прымаў у сям'і ўсе рашэньні, бо лічыў Інгрыд зусім няздатнай да самастойнага жыцьця. З гэтай жа нагоды ён на доўгія гады зрабіўся ейным асабістым імпрэсарыё, праз чые рукі праходзілі ўсе кантракты й грошы. І Інгрыд была ўдзячная Пэтэру за гэтую апеку, пакуль тая ня стала яе душыць. Аднак гэта будзе потым...

Праз год пасьля шлюбу Інгрыд нарадзіла дачку Піа. А ўжо на наступны дзень да парадзіхі завіталі агенты вядомага прадуцэра Дэвіда Сэльзьніка, якія прапанавалі Бэргман перабрацца ў Галівуд і для пачатку паўдзельнічаць у здымках амэрыканскай вэрсіі швэдзкага "Інтэрмэцца". Заключыўшы з дапамогай мужа адпаведны кантракт, ужо ў наступным 1939 годзе акторка мусіла паехаць у Амэрыку. "Швэцыя здавалася мне занадта маленькай, – згадвала яна пазьней. – І я адчувала, што мушу патрапіць у іншую, большую краіну... Але я вельмі баялася, што не спадабаюся Галівуду". Падставы для апасеньняў былі насамрэч рэальныя. Інгрыд адрозьнівалася ад стандартных акторак са штучна зробленай зьнешнасьцю, што панавалі ў той час у галівудзкіх стужках. Аднак менавіта гэтым яна й заваявала Амэрыку. "Натуральнасьць у ёй агаломшвае. Простая і шчырая, яна падаецца надзвычай сьвежай..." – пісалі пра яе газэты. А яшчэ Інгрыд была выразным трудаголікам і не магла жыць бяз працы. Яна першая прыходзіла на здымачную пляцоўку і ніколі не выказвала жаданьня сысьці раней. Здавалася, што менавіта тут, пад сьвятлом пражэктараў, было ейнае сапраўднае жыцьцё.

Здымкі прайшлі пасьпяхова, і праз чатыры месяцы Інгрыд вярнулася да мужа й дачкі ў Швэцыю. Тут яе чакала колькі непрыемных навінаў. Па-першае, пачалася ўсясьветная вайна, і хісткі нэўтралітэт Швэцыі ня быў надзейнай гарантыяй спакойнага жыцьця, што падштурхнула акторку да рашэньня перабрацца разам з дачкой у ЗША. Па-другое, чатырохмесяцавае расстаньне сталася прычынаю пэўнага непаразуменьня з мужам. Праўда, тады наяўнасьць дачкі, а таксама вялікая эмацыйная залежнасьць Інгрыд ад Пэтэра ўтрымалі яе ад рашучых захадаў.

Пасьля посьпеху амэрыканскага "Інтэрмэцца" Інгрыд Бэргман прыехала ў Галівуд у 1940 годзе ўжо ў якасьці зоркі, якая была зьвязаная кантрактам з кінастудыяй Дэвіда Сэльзьніка на шэсьць год. Аднак першым часам акторка вымушаная была сядзець бяз працы і зноў адчула адзіноту (муж заставаўся ў Швэцыі). Каб неяк нагадаць пра сябе, Інгрыд выра-

Наталя Гардзіенка

шыла паўдзельнічаць у пастаноўцы м'юзыклу на Брадвэі. І праца знайшла яе. Празь некаторы час зьявіліся цікавыя прапановы, і фільмы зь яе ўдзелам мелі сапраўдны посьпех. "Гісторыя доктара Джэкіла і містэра Хайда", "Касаблянка", "Па кім звоніць звон", "Газавае сьвятло" (за ролю ў апошнім яна ў 1945 годзе нарэшце атрымала першага "Оскара"). Розныя ролі, вобразы, цёплыя адносіны з Альфрэдам Хічкокам, які, здаецца, нават быў таемна закаханы ў Інгрыд... Кар'ера "швэдзкае ледзі", як яе часам называлі ў газэтах, ішла ўгору. На некаторы час Бэргман нават ператварылася ў гераіню амэрыканскай нацыі...

Людзі схільныя пераносіць экранныя вобразы ў жыцьцё, надзяляць актораў рысамі іх пэрсанажаў. Гэтак сталася і зь Інгрыд. На піку сваёй славы ў 1948 годзе яна ўяўлялася простым амэрыканцам таленавітай акторкай, узорнай маці і жонкай, ледзь не сьвятой. Аднак у рэальным жыцьці ўсё было ня так добра. Надзвычайная апека мужа, які жыў за кошт ейных ганарараў і ўсё за яе вырашаў, умешваючыся нават у творчую працу, з часам стала назаляць Інгрыд. Яна некалькі разоў прапаноўвала аформіць развод, аднак і сама разумела, што мае патрэбу ў падтрымцы мужчыны, а замены мужу пакуль не знаходзіла. Аднак гэта было справай часу.

У 1948 годзе Інгрыд Бэргман зрабіла крок, які зьмяніў усё ейнае жыцьцё: яна напісала ліст да Рабэрта Рассэліні, таленавітага італійскага рэжысэра, чые карціны (найперш "Рым – адкрыты горад") зрабілі на яе вялікае ўражаньне. Акторка шукала нечага новага, сьвежага, вольнага... І знайшла. Гэта было моцнае пачуцьцё, у выніку якога ў адзін момант была разбураная дашчэнту кар'ера Інгрыд Бэргман у Амэрыцы. Так, зьехаўшы ў 1948 годзе на здымкі ў Італію, яна больш не вярнулася да мужа.

У ЗША нібыта выбухнула бомба. Іншаземная акторка, якой Амэрыка прынесла славу й посьпех, адважылася выказаць пагарду да высокіх маральных устояў, кінула сям'ю дзеля "вольнага каханьня"?! Гэта быў сапраўдны шок для публікі. Усчаўся разводавы працэс. Інгрыд вельмі жадала ўсё вырашыць хутка і ціха, каб не прынесьці пакутаў дачцэ, аднак пакрыўджаны муж вырашыў адпомсьціць нявернай жонцы за тое, што яна ўсё ж здолела выйсьці з-пад ягонай улады. Ён прымусіў Інгрыд пакінуць яму ўсе грошы і абмежаваў ейныя спатканьні з дачкой. Амэрыканская публіка стала на бок "пакрыўджанага", і амаль на дзесяць год дарога ў Галівуд для Інгрыд была зачыненая. У Кангрэсе ЗША нават гучалі прапановы забараніць ёй уезд у гэтую краіну.

Інгрыд Бэргман не шкадавала, што сышла ад мужа. Яшчэ да атрыманьня разводу яна нарадзіла сына і праз давераных асобаў у Мэксыцы пабралася шлюбам з Рассэліні. Яе другі муж быў поўнай процілегласьцю першаму. Імклівы, неўтаймоўны, таленавіты рэжысэр, ён быў непадобны да прагматычнага, разважлівага дантыста. Ва ўсім, акрамя аднаго – ён таксама зрабіўся для Інгрыд адзіным кіроўцам ейнае кар'еры. Рассэліні доўга не дазваляў жонцы здымацца дзе-небудзь, апроч уласных фільмаў. Аднак акадэмічна адукаваная Бэргман так і ня здолела прыстасавацца да няспынных імправізацыяў мужа, які здымаў без сцэнараў, а часам і без прафэсійных актораў. Нарадзіўшы Рассэліні яшчэ двойню, на некаторы час Інгрыд нават упадабала ролю добрай, клапатлівай жонкі і маці. Але з часам жаданьне граць адрадзілася, да таго ж зьявіліся прапановы, на якія яна стала пагаджацца насуперак жаданьню мужа. Што й паклала канец шлюбу з Рассэліні, хоць і не прынесла такога цяжкага разводу, як дзесяць год таму, – празь некаторы час Інгрыд нават здолела аднавіць з бацькам трох сваіх дзяцей сяброўскія адносіны.

Вяртаньне Бэргман да амэрыканскай публікі было бліскучым. Яе "Анастасія" канца 50-х мела ў ЗША надзвычайны посьпех. З гэтае стужкі пачалося другое прышэсьце Інгрыд у кіно, і гэтае прышэсьце было асьляпляльным. Ейны прафэсіяналізм і працавітасьць зьдзівілі ўсіх. Яна здымалася ў кіно, грала ў тэатры, запісвалася на радыё і паўсюль заставалася жывой, натуральнай. Яна магла граць нават са зламанай нагой, нават калі не было моцы.

Пасьля расстаньня з Рассэліні Інгрыд хутка пабралася шлюбам у трэці раз. Яе абраньнікам зрабіўся імпрэсарыё Лярс Шмідт, супольнае жыцьцё зь якім таксама не было бясхмарным. Але ж Лярс застаўся зь ёй да канца, хоць і ня быў верны.

Новы віток славы й працы, жаданьне граць і жыць запоўнілі наступныя дзесяцігодзьдзі для Інгрыд Бэргман. Вядомыя рэжысэры, шматлікія тытулы, узнагароды і... шмат-шмат працы. Яна заставалася акторкай нават нягледзячы на тое, што ў 1974 годзе ў яе знайшлі рак, і давялося перажыць цяжкія апэрацыі ды месяцы ў лякарнях... Ужо на пачатку 1980-х яна часам сустракала ў газэтах згадкі пра сваю блізкую сьмерць, аднак рэагавала на гэта з уласьцівым ёй гумарам.

29 жніўня 1982 году ў Лёндане Інгрыд Бэргман адсьвяткавала свой шэсьцьдзесят сёмы дзень народзінаў, выпіла з блізкімі людзьмі шампанскага, аднак потым саслабла і зьлягла. Памерла яна адвячоркам. На ейным століку засталася расчыненая на апошніх старонках кніжка "Маленькі прынц", дзе былі радкі: "Маё цела занадта цяжкое. Я ня здолею зьнесьці яго. Аднак гэта тое самае, што скінуць старую абалёнку. Тут няма нічога сумнага... Будзе здавацца, што я памёр, але гэта няпраўда..." ■







# Ці трэба здаваць даляры?

Сяргей Кароль

*Па прозьбе рэдакцыі я мушу парушыць свой плян сэрыі эканамічных артыкулаў* і паразмаўляць пра грошы. Чорт бы яе пабраў, тую рэдакцыю зь ейнымі прозьбамі! Справа ў тым, што эканамісты ня надта любяць грошы: для нас яны – усяго толькі кавалачкі паперы, уплыў якіх на эканоміку моцна перавялічаны.*

У рэальнай эканоміцы вырашальную ролю граюць ня грошы, але рэчы. Ня грошы вызначаюць стан эканомікі, але ейныя рэсурсы – вытворчы капітал, рынак працы, інтэлектуальныя магчымасьці, ровень адукацыі. Дый асабісты дабрабыт таксама вымяраецца не грашыма, а тымі рэчамі, у якія можна гэтыя грошы перавесьці.

Рэчамі, аднак, цяжка абменьвацца: лядоўні давядзецца ацэньваць у шафах, аранжыкі – у яблыках (які жах!), а "Студэнцкія Думкі" – у "Народных Волях". Цяжка (хоць і больш рэальна) зьбіраць у рэчах капітал. Рэчы старэюць, губляюць каштоўнасьць, дый прадаць іх не заўжды лёгка. Не атрымаецца рэчамі замерыць і эканамічныя паказчыкі. Таму паступова на золку цывілізацыі натуральны абмен рэчамі быў заменены пагадненьнем вымяраць усе рэчы ва ўнівэрсальных адзінках адной – як правіла, каштоўнай альбо рэдкай – рэчы. Так зьявіліся грошы ў выглядзе каштоўных рэчаў: худобы, зубоў драпежнікаў, каштоўных камянёў і золата. Пасьля патрэба ў каштоўнасьці адпала, і ўзьніклі грошы, якія самі па сабе ёсьць звычайнымі паперкамі. Іхні кошт цалкам вызначаецца пагадненьнем паміж людзьмі.

Людзі "дамаўляюцца" міжсобку, што адзін даляр прыкладна роўны адной паездцы ў вашынгтонскім мэтро, а пяць – ланчу ў кавярні. У доўгатэрміновай пэрспэктыве гэтая дамова адпавядае вытворчым умовам эканомікі. Але бываюць пэрыяды, калі рэзкія зьмены ў гэтых умовах прыводзяць да адставаньня альбо апярэджаньня ў кошце грошай, што мае прамы ўплыў на рэальную эканоміку і вядзе да пераацэнкі ейных рэсурсаў. Вось такія падзеі насамрэч цікавыя. Менавіта гэта (у рэдакцыі "CD" мазгі ўсё-ткі на месцы) адбываецца цяпер на міжнародных валютных рынках і можа наўпрост паўплываць на рэальныя рэсурсы чытачоў "Думкі".

## Крызыс даляра?

Яго Вялікасьць Даляр гаспадарыў у сьвеце каля дзесяцігодзьдзя. Ні інтрыгі зацікаўленых у ягоным аслабленьні амэрыканскіх экспартэраў, ні нават "адзіная апазыцыя" ў асобе наноўсьпечанага эўра не былі яму перашкодаю. Колькі тыдняў таму, аднак, магло падацца, што трон пад Яго Вялікасьцю захістаўся. З пачатку ліпеня даляр патаньнеў адносна эўра, і выдае на тое, што ён па-ранейшаму паўзе ўніз.

І хоць у разьвітых краінах гэткія хістаньні – звычайная справа на валютных рынках, тэндэнцыя ўсё-ткі насьцярожвае. У краінах жа зь нетрывалай эканомікай, залежных ад эўра, лёгкая паніка ўжо адчуваецца. Яно й зразумела: насельніцтва гэтых краінаў захоўвае свае зьберажэньні менавіта ў далярах. У Расеі, Латвіі і нават у ізаляванай Беларусі ходзяць чуткі пра "крызыс у Штатах" і, адпаведна, пра ненадзейнасьць даляра ды неабходнасьць яго пазбывацца. Даляравыя зьберажэньні перацякаюць у матэрыяльныя прадметы. Нават у Менску народ рушыў купляць лядоўні. Ці значыць усё гэта, што ▶

Сяргей Кароль

эпоха даляра як валюты ўсясветнага накапленьня скончылася і ягонае месца мае заняць эўра? Ці адкаркуюць у Брусэлі шампанскае, каб адсьвяткаваць перамогу над нахабным ды неўтаймоўным капіталізмам янкі, які, нарэшце, мусіць адступіць перад сацыял-дэмакратычнай Эўропай?

## Як працуюць валютныя рынкі

Удзельнікі фінансавых рынкаў купляюць і прадаюць валюту, параўноўваючы краіны па наступных прыкметах.

**Чыньнік намінальны – банкаўскі адсотак.** Попыт на валюту любой краіны залежыць ад адсотку, які прыносяць кароткатэрміновыя ўклады ў банках гэтае краіны параўнальна з укладамі ў іншых краінах. Чым вышэйшая гэтая лічба ў ЗША адносна Эўразьвязу, тым ахвотней замежнікі купляюць даляры і ўкладаюць іх у банкі ды вэксэлі Штатаў. Залежыць жа ён, той адсотак, перш за ўсё ад манэтарнае палітыкі цэнтральнага банку. Цягам 1999 і 2000 гадоў Federal Reserve (цэнтрабанк ЗША) быў дужа заклапочаны "перагрэвам" эканомікі Штатаў. Беспадстаўна высокія цэны на акцыі стваралі небясьпеку празьмерных інвэстыцыяў, якія, як асьцерагаўся цэнтрабанк, ня здолеюць сябе акупіць. Прадпрыемствы й насельніцтва перасталі адкладаць і масава залезьлі ў пазыкі. Для таго каб скараціць той "ірацыянальны лішак", цэнтрабанк ЗША заняў жорсткую пазыцыю, скіраваную на падняцьце кошту пазыкі ў краіне, каб зьнізіць тым самым стымул да новых пакупак і інвэстыцыяў. У выніку адсотак на міжбанкаўскі ўклад вырас да рэкорднае лічбы – 6,5%. Між тым у Эўропе наноўсьпечаны Цэнтрабанк Эўразьвязу быў заняты цалкам іншаю працай – стымуляваньнем эканомікі. Там адсотак міжбанкаўскага фонду паступова зьніжаўся і год таму складаў 5%. Што й выклікала перацяканьне ўкладаў з эўра ў даляр і падзеньне курсу эўра ў лічаныя месяцы пасьля ягонага запуску.

**Чыньнік рэальны – попыт на капітал.** У ідэальных умовах адсотак на ўклад у адной і той жа валюце – прыкладам, у далярах – мусіць быць аднолькавы ва ўсіх краінах. Аднак, як ведае любы беларускі бізнэсовец, гэта далёка ня так. Даляравы ўклад у Менску прыносіць самае малое 8%. Адчыніце такі самы рахунак у Нямеччыне ці ЗША – і атрымаеце адсоткаў зь пяць. Скуль такая розьніца – валюта ж тая самая? А розьніца тлумачыцца рынкам капіталу (колькі ў краіне вольных грошай і які на іх попыт), а таксама палітычнаю рызыкай (верагоднасьцю таго, што вашыя ўклады забярэ ўрад ці зьнішчаць ваеўныя групоўкі) ды рызыкай валютнай (верагоднасьцю таго, што ўрад прымусіць інвэстараў здаць валюту па невыгодным курсе ці наагул не дазволіць вывезьці капітал). Па ўсіх прыкметах за капітал у Беларусі болей плацяць (бо яго не стае нават для мізэрнай прадпрымальніцкай дзейнасьці) і болей просяць (дзеля палітычнай і валютнай рызыкі).

У ЗША і ЭЗ рызыка аднолькава нізкая. Але вось попыт на капітал у іх розны. У Штатах насельніцтва пераважна маладое, мае патрэбу ў грашох, а эканамічны дынамізм 90-х выклікаў усплёск попыту на капітал. У Эўропе сытуацыя адваротная. Насельніцтва, якое старэе, мае ўжо салідныя накапленьні, а значыцца, капітал – лішак. Да таго ж, сацыяльна зарыентаваныя эканомікі краінаў ЭЗ знаходзяцца ў стане, блізкім да стагнацыі, ужо каля дзесяцігодзьдзя. Адчыняць прадпрыемствы ў Эўропе зрабілася невыгодна: антыкапіталістычнае працоўнае заканадаўства, вялы попыт і турботы з нагоды аб'яднаньня валютаў прымусілі прадпрымальнікаў шукаць удачы ў пракапіталістычных Штатах, якія імкліва разьвіваюцца. Рэальны адсотак на капітал там быў, вядома, вышэйшы, і з гэтае прычыны фонды працягвалі перацякаць з эўра ў даляр, што падвышала курс апошняга.

## Case Study. Усясьветнае запаволеньне й лядоўні

Як жа выглядаюць тыя чыньнікі сёньня? На рынку банкаўскіх укладаў ЗША яўнае пахаладаньне. Яно выкліканае спадам эканамічнае дзейнасьці, а таксама палітыкай Federal Reserve па яе ажыўленьні: сёлета Фэд зьнізіў стаўкі на фэдэральны крэдыт ажно на тры адсоткі – з 6,5% да 3,5%. У Эўропе, дзе такога рэзкага зьніжэньня пакуль не адбылося, даюць на адзін адсотак болей. Рэальныя чыньнікі таксама не на карысьць ЗША. Гады залішніх інвэстыцыяў прывялі да іх рэзкага скарачэньня ў 2001 годзе. І хоць эканоміка Амэрыкі знаходзіцца далёка ня ў крызысным стане, а ў звычайным цыклі ахаладжэньня, там цяперака меней прымяненьня для капіталу.

Ці азначае гэта, што даляр хутка ўпадзе і неабходна масава яго пазбывацца? Зусім не. Справа ў тым, што ў стадыю запаволеньня ўвайшоў увесь сьвет. Гэта значыць, што прыцягальнасьць укладаў ва ўсіх рэгіёнах прыкладна аднолькавая. Як і ў Штатах, эканамічны рост у Эўропе таксама нечакана запаволіўся. У гэтых варунках Цэнтрабанк Эўропы мусіць пайсьці па шляху амэрыканскіх калегаў і зьнізіць адсоткі. А вось наступствы спаду ў Эўропе могуць быць горшыя за штатаўскія. Нягнуткасьць, зарэгуляванасьць эўрапейскіх рынкаў можа стацца прычынаю больш доўгага выздараўленьня.





Сяргей Кароль

Ня радуе і ўвесь астатні сьвет. У такіх умовах выбіраць асабліва няма з чаго. Таму даляр хутчэй за ўсё стабілізуецца. Правёўшы гэткі аналіз, эксьпэрты банку "Морган–Чэйз" прадказваюць нават новае падзеньне эўра й ены стасоўна даляра.

Але не забываймася, што прагноз валютных рынкаў – што той прагноз надвор'я. Хоць у доўгай пэрспэктыве валюты й падпарадкоўваюцца нашай лёгіцы, з тыдню на тыдзень яны паводзяць сябе хаатычна. У нэрвовай абстаноўцы глябальнага зьніжэньня тэмпаў магчымыя й скачкі. Так што выснова наступная: адмыслова даляры здаваць ня трэба, бо замяніць іх покуль няма чым. Але вось калі лядоўня насамрэч патрэбная, то момант для яе набыцьця, магчыма, цяпер не найгоршы.

**Юрыдычная даведка:** аўтар артыкулу не нясе адказнасьці за наступствы фінансавых рашэньняў, прынятых пад уплывам гэтага матэрыялу,– у прыватнасьці, за набытыя лядоўні. Чытач мусіць разумець, што гандаль валютай зьвязаны зь вялікай рызыкай і вымагае ўсебаковага й дэталёвага аналізу сытуацыі.

**Ад рэдакцыі.** Гэты артыкул Сяргей даслаў нам літаральна за некалькі дзён да трагедыі ў Нью-Ёрку й Вашынгтоне. Натуральна, "даляравая праблема" ў Амэрыцы цяпер адышла на другі плян. "Студэнцкая Думка" праз сваіх карэспандэнтаў у ЗША будзе сачыць за разьвіцьцём падзеяў.

* Гл. "CD", 2001, № 2–4, 6.

# Лета. Крым. Кактэбэль

Лета Пляжная

*Наша вандроўка пачалася з пошукаў места Кактэбэль на мапе Крыму 1985 году выпуску. Шукалі доўга і, трэба сказаць, дарэмна. Да пошуку падключыўся ледзь ня ўвесь вагон цягніка. Выратавала праваднiца, сказаўшы, што колісь Кактэбэль называўся Планерскае. Прыдумаў жа нехта за камуністамі зьмяніць цудоўны выкшталцоны назоў на нейкае Планерскае...*

Зручней і хутчэй за ўсё дабірацца да Крыму на беларускім цягніку "Менск–Сымфэропаль" пад нумарам 100: ён ня робіць гэтулькі прыпынкаў, як астатнія. За 2–3 даляры можна даехаць ад Сымфэропалю да любой кропкі Крыму. Таксоўка, для параўнаньня, каштуе каля 25 даляраў.

Увогуле, невялікі Кактэбэль працуе цягам трох летніх месяцаў і аксамітнага сэзону. Больш працы няма, і ўвесь астатні час абарыгены жывуць на тыя грошы, якія ім прынёс курортны пэрыяд. Затое ўлетку людзі маюць магчымасьць зарабіць на здачы пакояў ды на падпрацоўках у месцах харчаваньня.

Самае таннае пражываньне – у намётах на пляжы. За пакой са зручнасьцямі на вуліцы трэба плаціць 3–4 даляры ў дзень. Двухпакаёвая кватэра здаецца за 20 умоўных адзінак. Дзень пражываньня ў пансіянаце з трохразовым харчаваньнем, але з вадой "па гадзінах", каштуе 18 у.а.

Зараз Кактэбэль зьбірае аматараў дэльтапланэрызму. Яшчэ места слаўнае тым, што тут любілі бываць розныя літаратурныя знакамітасьці – бамонд, адным словам. Функцыянуе нават дом-музэй Валошына.

Цэнтрам вечарова-начнага жыцьця Кактэбэлю ёсьць так званы мясцовы Брадвэй – вуліца, якая йдзе паралельна ўзьбярэжжу. Тут сканцэнтравана ўсё: кавярні, рынак, дыскатэкі, закусачныя. Цэлыя содні сноўдаюць людзі, а кавярні зачыня-



*Лета Пляжная*

юцца толькі тады, калі сыдзе апошні наведвальнік.

Існуе і свая пляжная мода. Гітом сэзону для жанчын у гэтым годзе быў камплект: купальнік і ў тон яму – вялікая напаўпразрыстая (а ў некаторых і вельмі празрыстая) хустка, якую можна завязваць у якасьці спадніцы, сукні, накідкі. А калі дзеўка яшчэ мае невялікую хустку на галаву (таксама ў той жа каляровай гаме), то гэта ўважаецца за вышэйшы пілятаж. Мода на мужчынскія купальныя строі даволі кансэрватыўная і мяняецца рэдка – нешта ў цёмных колерах.

Каля пляжу знаходзяцца залежы блакітнай гліны. Гэта своеасаблівае натуральнае мыла. Распусьціўшы гліну ў вадзе, намазваюць цела тоўстым-тоўстым слоем. Калі "тынк" высахне, трэба адмыць сваё глінянае цела ў вадзе. Скура ачышчаецца і становіцца больш гладкай. Зьяўляецца адчуваньне нейкае лёгкасьці.

Адпачынак – гэта і новыя знаёмствы. Але правільна знаёміцца – таксама мастацтва. Па маіх уласных назіраньнях, існуюць правілы кадраваньня на пляжы:

1. Вызначаецца месца, дзе будзе адбывацца знаёмства. Ёсьць розныя пляжы, і ў залежнасьці ад таго, каго вы хочаце зацікавіць, трэба абраць месца дыслякацыі: сямейны пляж, пляж для багатых зь лежакамі ды шэзьлёнгамі, просты пляж для студэнтаў і незабясьпечаных слаёў грамадзтва, пляж нудысцкі. Ад вашага выбару залежыць далейшая праграма знаёмства.

2. Трэба паназіраць за патэнцыйнай ахвярай ня менш за 30 хвілінаў, каб вызначыць, ці адэкватна паводзіць сябе чалавек, ці ён ураўнаважаны, ці не чапляецца да прадстаўнікоў свайго полу, не кідаецца, як шалёны, у ваду й г. д. Нам патрэбная нармальная кампанія!

3. На пляжы зважайце на тое, як вы ляжыце. Прымайце маляўнічыя паставы – прыгажосьць выратуе сьвет!

4. Уласна знаёмства. Трэба прывесьці сябе ў парадак (падфарбавацца, распусьціць валасы й г. д.) і, нявінна ўсьміхаючыся, запытацца ў ахвяры пра час, наяўнасьць картаў ці штосьці іншае. Раю забыцца на пытаньне "Дзе тут знаходзіцца бібліятэка?". Можна паспрабаваць такі варыянт: "Мне ваш твар падаецца знаёмым. Ці мы не сустракаліся раней? Можа, гэта было ў горадзе N?"

5. Варта кантраляваць свае словы. На занадта складаныя трэба забыцца. Прыклады непажаданых моўных адзінак: вышэйшая адукацыя, паступленьне ў асьпірантуру, e-mail, веданьне пяцёх-шасьцёх замежных моў і г. д. Калі надыдзе час, вы бліснеце ведамі, але адразу палохаць бедную істоту сваім напорам ня варта. Калі прадстаўнік процілеглага полу ня дурань, то зачэпіцца за вашае наіўнае пытаньне, і знаёмства адбудзецца.

6. У размове трэба пазьбягаць стандартных памылак. Звычайны джэнтэльмэнскі набор пытаньняў такі:

А) Як вас клічуць?

Б) Вы адкуль?

В) А вы тут даўна?

Г) А калі вы зьяжджаеце?

Калі хочаце зрабіць уражаньне, то прыдумляйце арыгінальныя пытаньні ці нетрадыцыйныя адказы. Напрыклад, вельмі зацікавіў мужчына, які прадставіўся шпіёнам – агентам 007 – і папрасіў называць яго проста Джэймс.

Але працягнем вандроўку па Крыме.

Крым шырака вядомы сваімі вінамі. Віно ўзважна таннае – каля 2,5 даляраў за літар. Гэтым тлумачыцца тое, што ўсе адпачывальнікі – пад градусам, толькі ў рознай ступені. Ёсьць і больш інтэлектуальныя забавы. Вельмі папулярныя экскурсіі, скокі з парашутам, палёты на дэльтаплянах, катаньні на водных матацыклах, "банане", катамаранах.

Відавочнай хібаю ёсьць цьвёрдая шэрая галька на ўзьбярэжжы, на якой ня надта зручна загараць. Да гэтага дадаюцца гандляры прадуктамі харчаваньня, прычым мужчыны носяць піва й морапрадукты, а жанчыны, збольшага, прысмакі й слодычы. Гэтыя гандляры не даюць спакойна расслабіцца, бо рэкламуюць свой тавар вельмі актыўна, гучна і зазыўна. На пяць адпачывальнікаў даводзіцца, па маіх прыблізных падліках, адзін гандляр. Калі ляжыш, зьнясілены купаньнем і начнымі дыскатэкамі, актыўным адпачынкам і пасіўным сузіраньнем вечнай прыгажосьці – мора і гор, – абавязкова якая-небудзь кабета палічыць справай гонару пракрычаць табе ледзь ня ў вуха ўсё сваё "мэню". Аднак раю пакаштаваць мясцовыя ласункі: гарэхі ў вінаградным соку, салодкую выпечку.

На пытаньне "Ці ведаеце вы ўкраінскую мову?" мясцовыя жыхары звычайна адказваюць: "Мы не ўкраінцы. Мы – крымчукі". Неяк блытаюцца накошт самаідэнтыфікацыі (нічога не нагадвае?). Нешта кажучь накошт расейскага флёту. А калі гэтае складанае пытаньне будзе вырашанае, кім яны будуць тады?

Велізарным недахопам у Кактэбэлі былі й застаюцца караоке. Ну чаму людзям, у якіх няма ні слыху, ні голасу, так карціць пасьпяваць? Кавярні, ля якіх стаялі гэтыя цуды музычнага прагрэсу, пуставалі. Шмат хто казаў, што падчас адпачынку пачынаў заўважаць у сабе чорную нянавісьць. Да караоке.




Міжволі шмат прыйшлося даведацца пра рэпэртуар гуртоў накшталт "Руки вверх" і г. д. Каб што якаснае было такім растыражаваным... Гэтым тлумачыцца аншляг у дрэннай кавярні без назову з выдатным гуртом таксама без назову, які выконваў музыку Scorpions, Led Zeppelin, Pink Floyd, "Чайфу" й г. д. Людзі ймкнуцца слухаць добрую музыку, сядзець зь сябрамі ў добрай кампаніі, знаёміцца з такімі ж аматарамі.

Месцам паломніцтва люду паспалітага ёсьць нудысцкі пляж – адзін з самых старых і знакамітых у Крыме. Як сапраўдная журналюга, я не магла туды не схадзіць. Такім чынам, на нудысцкім пляжы вы можаце пабачыць людзей, для якіх распрананьне ёсьць філязофіяй, ладам жыцьця, часткай адпачынку. Чалавек неапранўты цалкам зьліваецца з морам, ветрам, прыродай. Тут можна сустрэць розныя тыпы нудыстаў:

1. Нудысты-пачаткоўцы, якія сядзяць на пляжы "топлес". Гэта ў асноўным дзяўчаты, якія хочуць прыцягнуць да сябе ўвагу.

2. Частковыя нудысты, якія купаюцца распранутымі, але загараюць у купальніках. Маўляў, сонца шкоднае для скуры.

3. Уласна нудысты. Чорныя (цалкам!) ад загару людзі...

4. Апранутыя ў купальнікі звычайныя курортнікі. Што яны робяць на ню-пляжы, для мяне засталося загадкай. Аматары сузіраньня?

***

А незнаёмы бард Дзяніс з Кіева на пірсе сьпяваў пару гадзінаў запар вельмі лірычныя песьні. Запомнілася адна фраза: "Калі жыцьцё не чапляе за сэрца, значыць, з тваім жыцьцём нешта ня так"... Трэба абавязкова над гэтым падумаць.

Бывай, Крым, да спатканьня!





# Маеш вольны час?

## Напішы артыкул на конкурс "Студэнцкай думкі"!

**Конкурс ладзіцца па трох намінацыях.**

**Намінацыя першая – лепшы артыкул.** Тэмы для напісаньня артыкулаў:

- Моладзевыя тусоўкі й групоўкі (панкі, гіпі, байкеры, ролеры, скінгеды...).
- Асьцярожна, інтэрнат! Карысныя парады па выжываньні ў месцах масавага згуртаваньня студэнтаў. Праблемы інтэрнатаў: цесната, канфлікты, п'янства і г. д.
- Графіці на вулках нашых гарадоў (а таксама народная творчасьць – надпісы на сьценах, платах, прыпынках). Хто й чаму гэтым займаецца?
- Жыцьцё звонку і ўнутры: прыхаваныя псыхалягічныя матывы нашых паводзінаў.
- Самы прыкольны студэнт вашае ВНУ.

**Намінацыя другая – лепшы малюнак.** Распрацуй і дашлі нам маляваны вобраз беларускага студэнта. Уключы ўяўленьне! Лепшыя малюнкі – як, вядома, і лепшыя артыкулы – будуць друкавацца ў наступных нумарох "СД".

**Намінацыя трэцяя – показкі й сьмешкі са студэнцкага й моладзевага жыцьця.**

**Пераможцаў конкурсу чакаюць** прызы ад "СД" і ВМАgroup! **Да таго ж, яны атрымаюць унікальную** магчымасьць супрацоўнічаць са "Студэнцкай думкай".

**Жыві актыўна – пішы ў "СД"!**

Адрэса для допісаў: 220030, г. Менск, п/с 90.
Тэлефон рэдакцыі: (017) 213-22-19.
E-mail: studumka@tut.by

Алена Беляеўская

# Вандроўка да прыгажуні



*Злата Прага... Горад, у якім пачуваешся незвычайна вольна і ўтульна і куды хочацца прыязджаць зноў і зноў... Горад-казка, дзе кожная будынінка адметная й непадобная да іншых, дзе віруе мора чырвоных дахаў і на яркім блакіце неба вымалёўваюцца шпілі гатычных сабораў...*

Менавіта ў Прагу мы, КЭМПаўцы, і вырашылі выправіцца. Хто такія КЭМПаўцы? Так-так, вы ўзгадалі правільна: КЭМПаўцы – гэта сябры Клюбу Экстрэмальных Маладзевых Падарожжаў, маладыя й рухавыя ініцыятыўныя людзі, якіх хлебам не кармі і стыпэндыю ім не выдавай – дай толькі падарожжы й новыя ўражаньні. А падарожнічаем мы з картай зьніжак EURO<26, бо тады не марнуеш грошы на мэдычную страхоўку, добра заашчаджваеш свае тугрыкі пры наведваньні музэяў, тэатраў, клюбаў, дыскатэк, пры пражываньні ў хостэлсах.

Кампанія КЭМПАўцаў – выдатная, а вандроўкі ў файнай кампаніі – заўжды прыемныя, пазнавальныя і цікавыя. Сядаеш на цягнік, потым на іншы цягнік, потым на "сабаку" (электрацыю), затым яшчэ на аднаго "сабаку". Часам зьмяняеш 7(!) цягнікоў, як гэта зрабілі мы, калі ехалі ў Прагу. Пракаціліся на "сьпіртавозе" (электрацыя з Брэсту да польскага Тэрэспалю) і на двухпавярховым "сабаку", у дыхтоўным чэскім цягніку, ехалі праз маленькія й вялікія польскія гарады і шэра-блакітныя горы Судэты, праяжджалі праз Мінск (Мінск Мазавецкі – ёсьць такое польскае места), міналі чэскія Нахад, Градзец Кралёвэ.

І вось яна, Прага... Пра гэтую прыгажуню можна распавядаць гадзінамі. Апранула яна сьвяточную сукенку, сшытую з каралеўскіх палацаў, рознакаляровых дамкоў, ратушаў, гатычных храмаў, шматлікімі мастамі, нібы поясам, перавязалася – і прыязна ўсьміхаецца, паказвае сябе ва ўсёй красе. Ходзіш па гэтым казачным горадзе вельмі павольна, бо ніяк ня можаш адысьці ад сабору сьвятога Віта, скіраванага, здаецца, проста да Бога, бо доўга стаіш на Карлавым мосьце і слухаеш вулічных музыкаў, бо кожны дом як помнік мастацтва, ля якога хочацца спыніцца і ўважліва разгледзець яго. Ходзіш спачатку як бы бязмэтава, зьдзіўляючыся нейкаму пачуцьцю лёгкасьці быцьця і захапляючыся старыннымі вузенькімі брусчатымі вулачкамі, дагледжанымі паркамі, набярэжнай ракі Вэлтавы са мноствам утульных кавярняў. А потым пачынаеш мэтанакіравана знаёміцца з горадам і сьпярша наведваеш Праскі Град.

Праскі Град – гістарычнае ядро гораду, рэзыдэнцыя чэскіх уладароў і архіепіскапаў. Заснаваны яшчэ ў IX ст., ён дасягнуў росквіту ў XIV ст. пры Карлы IV. Праскі Град – гэта ня толькі раманская базыліка сьвятога Йіржы, Каралеўскі палац і сусьветна вядомы гатычны сабор сьвятога Віта, але й каралеўскія сады, і трактырчык Вікарка, і ўнікальная Злата вулічка, на якой калісьці жылі алхімікі. У комплекс Праскага Града ўваходзяць таксама знакамітыя вежы (Чорная вежа, Белая, Парахавая, вежа Даліборка) і летні палац каралевы Ганны эпохі Адраджэньня (яго называюць яшчэ Бэльвэдэр). Нішто сабе лецішча было ў каралевы – сьветлы даўгі будынак, акуратна падстрыжаныя дрэвы й кусьцікі самшыту, фантаны, ружоўнік.


Замак Карлштэйн

Найбольш уражвае сабор сьвятога Віта. Пабудаваны на высокім месцы, ён бачны адусюль. З розных бакоў і ў розны час содняў ён глядзіцца па-рознаму. Удзень ён сьветлы, ажурны, вострваверхі; увечары – задуменны, імглісты; уначы, падсьветлены пражэктарамі, здаецца нерэальна блізкім да нябёсаў. А калі на яго падымаешся (хоць гэта ня так ужо і лёгка – больш за 300 прыступак па вузенькай вінтавой лесьвіцы), то бачыш Прагу з вышыні птушынага лёту, і відовішча гэтае незабыўнае.

Праскі Град са Старым Горадам злучае Каралеўскі шлях, па якім калісьці праходзіла працэсія каранацыі чэскіх каралёў. Складовай часткай Каралеўскага шляху з'яўляецца Карлаў мост XIV ст., упрыгожаны трыма дзясяткамі скульптурных групаў, зьбольшага з выявамі сьвятых, якія маўкліва й велічна захоўваюць гісторыю старога гораду. Акунуўшыся ў вечаровы зьмрок, Карлаў мост становіцца асабліва загадкавым і паэтычным. Бачныя сілуэты закаханых параў – гэта месца спатканьняў і рамантычных прызнаньняў. Граюць музыкі, сьпяваюць харалы маладыя чэшкі, паказваюць міні-спэктаклі лялечнікі. На Карлавым мосьце таксама загадваюць жаданьні. Для гэтага трэба падысьці да адной скульптурнай групы, шырока раскінуць рукі і паспрабаваць дакрануцца адной рукой да ўбраньня сьвятога, а другой – дацягнуцца да хвосьціка сабачкі. І жаданьні, можаце паверыць, спаўняюцца.

Што ж, пераходзім праз Карлаў мост і ідзем у Стары Горад, на Старагародзкую плошчу. Тут на ратушы знаходзяцца куранты XV ст., дзе штогадзінна паўтараецца ход апосталаў – адчыняюцца вакенцы, у якіх зьмяняюцца фігуркі апосталаў, і нейкі шкілецік раўнамерна бумкае званочкам, нагадваючы пра хуткацечнасьць часу. На Старагародзкай плошчы можна пракаціцца ў карэце і ўбачыць людзей, якія запросяць вас на тэатральныя імпрэзы ці канцэрты зорак праскай опэры пад адкрытым небам. Апранутыя гэтыя людзі ў старажытныя бальныя сукенкі і чорныя


Прага з вышыні птушынага лёту



Poly Stories

Алена Беляеўская

Алена Беляеўская


*Едуць сабе чэскія рыцары ля Карлштэйну...*

фракі (праўда, пад фракам могуць хавацца спартовыя штаны і красоўкі).

Спадабалася нашай групе і ў іншых праскіх мясьцінах. З задавальненьнем пасядзелі ў дворыку Карлавага ўнівэрсытэту, дзе калісьці вучыўся Францішак Скарына, змаглі знайсьці помнік нашаму славутаму земляку, што знаходзіцца непадалёк ад Праскага Града. Палюбаваліся Малай Странай і Вышэградам, трошкі патанчылі ля "Дома, што танчыць", наведалі гасподы (так па-чэску называюцца месцы, дзе п'ецца найсмачнейшае піва). А яшчэ ж былі выправы з Прагі ў іншыя чэскія гарады – Карлштэйн і Кутну Гору.

У Карлштэйне знаходзіцца замак, пабудаваны Карлам IV у XIV ст. у гатычным стылі. Але аж да XIX ст. гэты замак, які лічыцца найпрыгажэйшым у Чэхіі, неаднаразова перабудоўваўся і таму, магчыма, здаецца надзіва сучасным. Экскурсіі ў замку праводзяцца на розных мовах, бо людзі едуць сюды з розных куткоў сьвету. Абраўшы экскурсію па-ангельску, мы апынуліся ў адной групе з ангельчыкамі, амэрыканцамі, японкамі, гішпанцамі, палякамі, чэхамі, расейцамі, кітайцамі. У дзень, калі мы патрапілі ў Карлштэйн, там ладзіўся вялікі рыцарскі турнір, і рыцары ў мэтах рэклямы разьяжджалі сабе на конях і вэрблюдзе каля замка. Трэба сказаць, беларускія рыцары выглядаюць ня горш за чэскіх, вэрблюдаў, праўда, у нас дэфіцыт.


*Кампанія КЭМПаўцаў ва Ўроцлаве*

Як і Карлштэйн, Кутна Гора знаходзіцца непадалёк ад Прагі. У сярэднявечча гэты горад быў найбагацейшым у Чэхіі. Тут здабывалася срэбра (як цікава было залезьці ў срэбную шахту!), а пачынаючы з 1300 году тры разы чаканіліся праскія грошы.

Срэбная Кутна Гора, рыцарскі Карлштэйн, прыгажуня Прага – колькі мы ўсяго пабачылі за адну паездку! А яшчэ ж на зваротным шляху здолелі заехаць у польскі Ўроцлаў і цэлы дзень шпацыравалі па гэтым чыстым спакойным горадзе. А яшчэ мы бачылі... А яшчэ... Уражаньні, канечне, перапаўнялі нас, калі мы вярнуліся на Беларусь. І, разьвітваючыся на менскім вакзале, кожны з КЭМПаўцаў пытаўся: "Калі будзе наступная вандроўка? Куды едзем?" А сапраўды, куды? У марах – Францыя, Шатляндыя, Чарнагорыя, Вугоршчына. Што ў плянах? Можа, у вас ёсьць прапановы? Прыходзьце да нас ці тэлефануйце (EURO<26, Менск, вул. Дарашэвіча, 4–8, тэл. 239-31-17, 219-47-11). Ласкава запрашаем далучацца да КЭМПаўскіх вандровак!

# Валянтэрская праца

Гутарыла Марына Мікуліч



*Штодня кожнаму з нас у галаву прыходзіць мноства разнастайных ідэяў. Адны зь іх паміраюць, не пражыўшы й дня. Іншыя перарастаюць у пляны дзеяньня і жывуць... 80 год! Менавіта такі лёс у ідэі П'ера Сэрэсоля, які ў 1920 годзе зарганізаваў першы валянтэрскі летнік. Хутка зьявілася Міжнародная Грамадзянская Служба (МГС), якая й занялася каардынацыяй валянтэрскіх летнікаў па ўсім сьвеце. У тым ліку і ў Беларусі. У нашай краіне ініцыятыву МГС прадстаўляе моладзевая арганізацыя "Новая Група" (НГ). Зрэшты, пра ўсе падрабязнасьці распавядзе* ***Вольга Нікіціна****, выканаўчы дырэктар НГ.*

*"Студэнцкая Думка":* **"Новая Група" ўзьнікла як ініцыятыва ў 1996 годзе і амаль адразу стала партнэрам Міжнароднай Грамадзянскай Службы. Як вам удалося так хутка навязаць кантакты з такой саліднай арганізацыяй?**

**Вольга Нікіціна:** *Справа ў тым, што да 1995 году сталым беларускім партнэрам МГС была Асацыяцыя Працы Моладзі (АПМ). Але ўлетку 1995-га стасункі паміж дзьвюма арганізацыямі разладзіліся. АПМ нават адмовілася прыняць валянтэрскі летнік. Для МГС паўстала пытаньне пошуку новага партнэра, а для нас – стварэньня альтэрнатыўнае АПМ арганізацыі. Зрэшты, такая патрэба адчувалася ўжо даўна. Прычына простая: АПМ, нягледзячы на тое, што яна была створаная ўжо на золку дэмакратычных зьменаў, захоўвала старыя камсамольскія мэтады працы. Тыя, каму даводзілася браць удзел у валянтэрскіх летніках асацыяцыі, гэта ўсьведамлялі. Але толькі ў 1996 годзе надарылася магчымасьць зрабіць нешта па-новаму. Тады мы й сталіся новай кантактавай групай МГС у Беларусі.*

"CD": ***Наколькі цяжка было НГ стаць на ногі?***

**В.Н.:** *Цяжка. Не было памяшканьня для офісу. Дакладней, офіс месьціўся ў маёй аднапакаёвай кватэрцы, якую я здымала як жытло. Таксама не ставала аргтэхнікі. Памятаю, напачатку ў нас быў толькі старэнькі факс, падораны нашымі швайцарскімі сябрамі. Аднак, нягледзячы на ўсе гэтыя нязручнасьці, ужо ў 1996 годзе мы зладзілі два валянтэрскія летнікі на свае сродкі. І правялі іх здавальняюча, то бок самі атрымалі задавальненьне ад іх правядзеньня. Але на адным голым энтузіязме буйныя акцыі штогод ладзіць немагчыма. Нам патрэбная была сыстэма. Міжнародная дзейнасьць таксама вымагала сыстэмы. Такім чынам, у 1998 годзе паўстала пытаньне пра рэгістрацыю арганізацыі.*

"CD": ***Ці зьмяніла рэгістрацыя жыцьцё арганізацыі кардынальна?***

**В.Н.:** *Рэгістрацыя папросту дапамагла стварыць крыху іншую сыстэму кіраваньня й спарадкавала фінансавыя пытаньні. На сёньня мы вызначылі гадавы ўнёсак для сяброў у памеры прыкладна 13 мінімальных заробкаў. Сума, скажам, для студэнта не маленькая. Але яна была зацьверджаная самімі ж студэнтамі – сябрамі НГ – на каардынацыйнай радзе. У рэшце рэшт, малады чалавек можа ахвяраваць сваімі маленькімі задавальненьнямі (цыгарэты, піва) дзеля магчымасьці займацца справаю, якая яго цікавіць. Пры гэтым мы ставімся да аплаты даволі строга: людзі альбо плацяць, альбо заслугоўваюць права быць сябрам актыўнай дзейнасьцю ў НГ. Мы змушаныя так рабіць, каб ня быць залежнымі ад фондаў і самастойна разьвіваць унутраную інфраструктуру. І на сёньня мы фінансуем 95% нашых акцыяў і праектаў з уласных рэсурсаў. Мне падаецца, такі посьпех азначае пэўную стабільнасьць і надзейнасьць арганізацыі.*

"CD": ***Якімі ж акцыямі й праектамі вы займаецеся?***

**В.Н.:** *Самымі разнастайнымі – экалягічнымі, сацыяльнымі, культурнымі. Але галоўная адрозная рыса нашых акцыяў – практычны вынік. Просты прыклад: увесну 2000 году мы пасадзілі дрэвы вакол жылога дома, дзе разьмешчаны наш офіс. Толькі ўявіце: праз колькі год на пустыры будуць расьці маладыя моцныя дрэўцы. Увосень 2000 году адбылася нашая акцыя па зборы макулятуры. Акцыя, выгодная для ўсіх. Людзі атрымлівалі па 50 рублёў за кожны прынесены кілярграм макулятуры, а грамадзтва ў цэлым – новую паперу. Любая наша акцыя мае практычны вынік. І за ўсялякай акцыяй стаіць больш маштабная ідэя й праблема. Напрыклад, за акцыяй па зборы макулятуры стаяла нааагул праблема перапрацоўкі сьмецьця...*

"CD": ***А што наконт валянтэрскага аспэкту вашае дзейнасьці?***

**В.Н.:** *Валянтэрства – асноўны занятак нашае арганізацыі. Штолета любы малады чалавек можа паехаць з дапамогаю НГ у любы куток сьвету ў якасьці валянтэра. Як правіла, мы раім пачаць з блізкага замежжа: меней моўных праблемаў (мова большасьці валянтэрскіх летнікаў – ангельская – заўв. аўт.), дый дарога не вымагае вялікіх выдаткаў. І ўжо пасьля першае паездкі людзі самі пачынаюць плянаваць сваё наступнае валянтэрскае лета, выбіраюць больш аддаленыя месцы і зьбіраюць грошы на дарогу.*

"CD": ***Але чым патлумачыць такі энтузіязм? У Беларусі ж толькі адзінкі разумеюць, што такое валянтэрства і з чым яго ядуць.***

**В.Н.:** *Гэта праўда. Цяпер валянтэрства "на слыху" ва ўсім грамадзтве, але вельмі часта даводзіцца сутыкацца зь неразуменьнем ягонай сутнасьці. За прыкладам далёка хадзіць ня трэба. Калі мы ладзілі валянтэрскія летнікі на базе аздараўленчых лягераў, многія з тых, хто там адпачываў, пыталіся: вам што, за гэта плацяць? Яшчэ меней зразумела людзям, чаму замежнікі едуць у Беларусь і аплачваюць візу, дарогу й рэгістрацыю дзеля аднаго – каб папрацаваць тут у валянтэрскім летніку. Сумна, але 99 адсоткаў нашых валянтэраў-навічкоў таксама маюць даволі цьмянае ўяўленьне пра ідэю валянтэрства. Як правіла, у іх ёсьць толькі адно жаданьне – зьезьдзіць за мяжу. Вядома, перад паездкай мы ладзім сустрэчы й імкнемся патлумачыць, што тое, чым яны будуць займацца, ня про-*

Гутарыла Марына Мікуліч

Гутарыла Марына Мікуліч

*сты турызм, але сацыяльны турызм, што ў іх будзе магчымасьць пабачыць краіну знутры, з усімі еінымі "хібамі". Але толькі праз асабістыя кантакты людзі ўспрымаюць ідэю валянтэрства. Прыкладам, пасьля працы ў бежанскім цэнтры чалавеку адкрываецца праблема бежанцаў. Зьяўляецца новае сьветаадчуваньне, новае разуменьне свайго месца ў жыцьці. Тады словы ўжо не патрэбныя. Прыйсьці да разуменьня валянтэрства кожны мусіць сам.*

***"CD": А ці патрэбнае наагул валянтэрства нашаму грамадзтву?***

**В.Н.:** *Я мяркую, жыцьцёва неабходнае. Здольнасьць да добраахвотнае працы – лякмусавая папера для грамадзтва. Калі людзі гатовыя вылезьці са свайго берлагу і прыкласьці экстравысілкі дзеля іншага, то гэта сьведчыць пра жыцьцяздольнасьць грамадзтва. Значыцца, ня ўсё яшчэ згублена: людзі могуць вырашаць свае праблемы супольна. Між іншым, менавіта супольна было пабудаванае прыгожае заходняе жыцьцё, якому мы так зайздросьцім. З Захаду прыйшла да нас ідэя П'ера Сэрэсоля – ідэя валянтэрства. Магчыма, яна – адзін з ключоў да заходняга дабрабыту. Але, як і Захаду ў свой час, Беларусі спатрэбіцца шмат высілкаў, каб умацаваць ідэю валянтэрства ў сьвядомасьці людзей. Магчыма, той факт, што 8 сьнежня 2000 году НГ сталася галіною Міжнароднай Грамадзянскай Службы і выйшла на міжнародны ровень, паскорыць працэс валянтэрызацыі Беларусі. Будуць новыя валянтэрскія летнікі. Адпаведна, зьявяцца новыя валянтэры, якія са свайго досьведу зразумеюць каштоўнасьць добраахвотнае працы.*

Адрэса "Новае Групы": вул. В. Харужай, 29, 10-ы паверх, пакой 107
тэл./факс: (017) 234-40-54
пэйдж.: 206-75-75, аб. "Валянтэр"
e-mail: new_group@user.unibel.by

Алеська

# Менск слэнгавы

## (Працяг)

**Кулёк.** Неафіцыйная назва Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту культуры. Тут тусуюцца выкладнікі; здараецца, што БДзУК наведваюць і студэнты. Вельмі спадабалася яшчэ адна назва – **Інстытут культуры і адпачынку** (унівэрсытэтам установа стала называцца ўзважна нядаўна).

**Рыгалаўка.** У будынку, дзе зараз знаходзіцца "Папараць-кветка", была забягалаўка "Фабрыка-кухня". Гэта была даступная, танная сталоўка для люмпэн-пралетарыяту, і яе назоў кажа сам за сябе. Так яшчэ, кажуць, называліся ўсе студэнцкія сталоўкі.

**Плесень.** Назва піўбара "Ясень", што знаходзіўся на пустыры з правага боку ад былога кляштару бэрнардынцаў (сёньняшняга архіву музэю літаратуры і мастацтва) на пляцы Волі.


Дом Мусінскага

**Жураўлі.** Былая рэстарацыя "Журавінка" на вуліцы Я. Купалы. Гэта было месца, куды хадзілі есьці комплексныя абеды й піць чэскае піва "Пілізно".

**Чорныя Скалы.** Назва "Тэатральнай кавярні", што на вуліцы Багдановіча, ля Сувораўскае вучэльні. Існуе легенда, што калісьці даўна навучэнцы-суворайцы ў чорнай форме ўтварылі грандыёзную бойку ў кавярні і зрабілі кучу малу, ды такую, што зьнешне яна нагадвала высокія скалы.

**Ля Скала.** Кавярня "Уют" на рагу Чычэрына і Камуністычнай. Назва паходзіць, відаць, ад частых наведнікаў – супрацоўнікаў Опэрнага тэатру, якія месьціцца побач.

**Крама генэральская.** Знаходзіцца насупроць расейскае амбасады на Камуністычнай вуліцы (генэралы-камуністы-расейцы – нехта мудра ўсё аб'яднаў). Назва пайшла ад жыхароў дома – вайскоўцаў. Крама за савецкім часам хавала ад простых сьмяротных харчовыя дэфіцыты. А цяпер гэта выдатнае месца, дзе часам хаваюцца


Унівэр

Аэрапік

несанкцыяваныя пікетоўнікі.

**Масоны.** На пляцы Волі быў калісьці дом, у якім, па паданьнях, зьбіраліся масоны. Цяпер засталіся толькі разваліны, але ў народнай памяці захавалася назва гэтага месца.

**Конса, Кансэрва.** Назва кансэрваторыі – Беларускай акадэміі музыкі.

**Сасіскі.** Ля Консы ў чырвоным цагляным доме, дзе знаходзіцца кавярня "Пінгвін", была крама, куды студэнты вышэйзгаданае ўстановы хадзілі есьці вышэйзгаданую ежу. Зараз там прадаюцца торты й г. д.

**Мастакі.** Сквэр насупроць Консы, дзе мастакі гандлююць прадуктамі сваёй творчасьці. Знаўцы кажуць, што тут часам патрапляюцца неблагія творы.

**Панэль.** Месца побач з Мастакамі.

**Дом Мусінскага.** Дом на Нямізе. Мусінскі – архітэктар гэтага дома.

**Прастуда.** Піўная "Прохлада" на Нямізе.

**Пянькі.** Былы дом культуры заводу "Прамень", які выраблае абутак. Знаходзіцца на Нямізе насупроць МакДональдсу. "Пянькі" слаўныя тым, што тут гралі біт, калі яго ня гралі амаль нідзе.

**Шайба.** Клюб "West World". Будынак перад гасьцёўняй "Беларусь" формаю нагадвае звычайную хакейную шайбу гіганцкіх памераў.

**Павучыньне.** Кавярня "Ромашка" на праспэкце Машэрава. Верагодна, назоў пайшоў ад складанага пераплятаньня лесьвіцаў. Ёсьць і іншы варыянт паходжаньня: павучыньне раскладалі хлопцы для наіўных дзяўчат.

**Юбілейка.** Каля гасьцёўні "Юбілейная" тусуецца шмат замежнікаў. Тут працуюць "начныя бабачкі".

**Гарбаты мосьцік.** Мост за Траецкім прадмесьцем.

**Старажоўка.** Старажоўскага рынку ўжо даўна няма, а назва месца захавалася.

**Бухенвальд.** Сталоўка БПІ на Сурганава. Як кармілі, маўляў, так і называлася (існуе яшчэ адна вэрсія паходжаньня гэтага назову – заўв. рэд.).

**Унівэр.** Гэта неафіцыйная назва Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Студэнты, якія вучацца на спэцыяльнасьці "прыкладная матэматыка", называюцца "прыматы", а радыёфізыкі – "рафікі". Раней філязофскі і эканамічны факультэты мелі адзін дах і адну назву – ФЭФ, якая расшыфроўвалася як "факультэт эратычных фантазіяў".

**ПНУ.** Расшыфроўвалася як "Піўная Насупроць Унівэрсытэту".

**Гай.** Адна зь філіяў унівэру знаходзіцца ў гаі (дарэчы, гэткі ж назоў мае і прыпынак электрычкі), што за кальцавой дарогай. Там вучацца радыёфізыкі, біёлягі, тамсама знаходзяцца й інтэрнаты. Калісьці тут плянаваўся паўнавартасны студэнцкі га-


Бранетанкавы


Конса

Алеська

радок, але пляны покуль засталіся толькі на паперы.

**Кубінка.** Так называлася звычайная сталоўка на вуліцы Валадарскага, не даходзячы да Рускага тэатру. У 70-я гады ва ўнівэрсытэце зьявілася шмат кубінскіх студэнтаў. Відаць, кубінкі асядалі менавіта ў гэтай таннай сталоўцы.

**Валадарка.** Вязьніца на вуліцы Валадарскага, дзе калі-небудзь зьявяцца мэмарыяльныя дошкі знакамітых вязьняў.

**Бранетанкавы, Танк, Пэдун.** Беларускі дзяржаўны пэдагагічны ўнівэрсытэт імя М. Танка мае вельмі калярытную назву. На слэнгу абыгрываецца як слова "танк", так і прыналежнасьць да пэдагагічнае галіны. Студэнты БДзПУ завуцца "танкістамі".

**Даляр.** Такую назву мае дом №15 па вуліцы Кульман. Калі глядзець на яго зьверху, то можна заўважыць, што ён мае форму даляра. Лічыцца вельмі прэстыжным, да таго ж кватэры ў ім надта дарагія. Відаць, трэба шмат зялёных купюраў, каб набыць такую.

**"На Розачкі".** Так кажуць людзі, якія жывуць на вуліцы Розы Люксэмбург. Нагадаю, што гэтая дзяячка была адным з заснавальнікаў камуністычнай партыі Нямеччыны. Дарэчная назва для беларускае вуліцы!

**Аэрапік, порт.** Аэрапорт "Мінск-1".

**Умань.** Скарочаная назва вуліцы Уманскай.

**Тульпан, Рамонак.** Назва выстаўнага павільёну БелЭКСПА на Машэрава, 14. Атрымаў такі назоў з-за арыгінальнай архітэктуры, якая нагадвае рамонак альбо тульпан пялёсткамі дадолу.

**Берасьцейская крэпасьць, Бастылія.** Даўгі чырвоны дом на вуліцы Танкавай (раней вуліцы М. Танка) нагадвае чырвоную цэглу крэпасьці-героя. А няроўны верх дома – разбураныя пабудовы крэпасьці. А Бастылія – таму што гэта таксама знакамітая крэпасьць.

**Камса.** Папросту Камсамольскае возера.

**Аўтаз.** Назва Менскага аўтамабільнага заводу, што ля Партызанскага праспэкту. Выпускае: грузавыя аўтамабілі, аўтасамазвалы, аўтамабілі-лесавозы й аўтапрычэпы. Моц!

**Шарыкі.** Раён ля шарыкападшыпнікавага заводу. Вырабляе шарыкі й падшыпнікі. Тусуюцца працоўныя й іхнае кіраўніцтва.

**У народ.** Каля будучае станцыі мэтро "Ангарская" калісьці на дамах быў надпіс "Народ и партия едины". Адзін з будынкаў меў краму, у якую хадзілі "Ў народ". На жаль (а, можа, наадварот, на шчасьце, навошта эўрапеізаваным беларусам такія лёзунгі), надпіс зьнялі.

**Даліна маньякоў.** У Пятроўшчыне, насупроць мэдінстытуту, ёсьць даліна, вядомая тым, што там здараліся выпадкі, як у фільмах жахаў. Даліна ёсьць месцам дзеяньня дзіцячых страшылак. Вядома, гэта найчасьцей чуткі й дзейкі, чымся рэаліі, але, відаць, гэтае месца моцна прыцягвае маньякоў. У іх там адбываюцца ўсесаюзныя зьлёты (навучаньне з практычнаю часткаю).

**Карабель, Рыба.** Адзін з карпусоў БДПА, што месьціцца на праспэкце Скарыны.

**Караблік.** Сцэна ў парку Горкага. Раней па сваім дызайне нагадвала карабель.

**Вялікая Кітайская Сьцяна.** Дамы на праспэкце Пушкіна, якія злучаныя адно з адным і такім чынам утвараюць "сьцяну".

**Камяні.** Музэй валуноў, што месьціцца ля вуліцы Русіянава.

**Ангара.** Раён вуліцы Ангарскай.

**Сухары.** Раён Сухарава.

**Курасы.** Раён Курасоўшчына.

**Жданы, Жданікі.** Ждановічы.

**Камары.** Раён Камароўкі.

**Ракасы.** Праспэкт Ракасоўскага.

**Карчы.** Танцпляцоўка ў лесапарку паміж трактарным і аўтазаводам у парку 50-годзьдзя Кастрычніка.

*працяг будзе*

# Чалавек і рэч...

Оркі







*Зазірні ў сябе і ўзгадай свае жаданьні за апошнія два месяцы. Зматай стужку будзённасьці і прагледзь ізноў... На што скіраваныя твае намогі? Дзеля чаго ты часьцей за ўсё робіш над сабой высілкі? Адсачы паказаньні свайго сьпідомэтра й таномэтра... Што* ***часьцей за ўсё*** *прымушае цябе павялічваць сваю хуткасьць і пачынаць мітусіцца? Што прымушае тваё сэрца біцца і зашкальваць крывяны ціск? Не паверыш! Жаданьне валодаць рэчамі, жаданьне набываць рэчы!*

Нават калі будуеш пляны на будучыню, зьбіраючыся вучыцца (альбо **набыць** адукацыю), ці ня кажаш ты сабе: "Я буду працаваць у крутым офісе з дывановым пакрыцьцём і жалюзі на вокнах, а на працу буду хадзіць у крутым строі ад Армані..."? Можа быць, ня кажаш, а проста ўяўляеш. Згадзіся, у нашым грамадзтве (дзе 10–15 год таму зруйнаваліся ўсе традыцыі) прасьцей уявіць зьнешнія атрыбуты будучае прафэсіі, чымся працу, якой яна вымагае.

Увогуле, ці можаш ты ўявіць сабе жаданьне, для зьдзяйсьненьня якога ня трэба забегчы ў краму ці на кірмаш, наведаць кавярню? Ці шмат такіх жаданьняў у параўнаньні з астатнімі? Палічы, колькі пакупак ты робіш за дзень. А як часта мы набываем тое, што сапраўды патрэбна? Часьцей за ўсё гэта рэч, якая ня будзе служыць болей за два месяцы (а звычайна меней за два тыдні), ежа, з-за якой потым будзеш "пілаваць" сябе за лішнія калёрыі. Колькі часу ты праводзіш, праглядаючы рэкляму ці разглядаючы каталёгі й ілюстраваныя часопісы, уяўляючы сябе гаспадаром тых ці іншых рэчаў? Увесь час, калі мы не працуем ці ня сьпім, мы спажываем. Безупынку. І гэта цалкам **нармальна**.

...Я сяджу на працы перад кампутарам і ў абедзенны перапынак настукваю гэты няшчасны артыкул. Вядома, я ня бачу цябе. Магчыма, ты панк, які прашвэндаўся ўсё лета ў адзіных драных шортах ды ў чорнай фуфайцы з партрэтам Незабыўнага і адзіныя выдаткі якога – на касэты для старога магнітафона ды сьпіртовыя напоі. Ці хакер-праграмэр, які бавіць сваё жыцьцё, седзячы дома перад кампом у "сямейных шортах" і стаптаных пантофлях, піша кавалкі для цацак, знаходзячы замовы праз Інэт і праз Інэт жа здаючы сваю прадукцыю. І выходзіць з хаты, толькі каб набыць сабе ежы й піва...

Але ў такіх людзей свае замарочкі. Калі ты хочаш быць нармальным (знайсьці сваё месца ў грамадзтве і здабыць посьпех), ты мусіш выглядаць нармальным. Гэта датычыцца ня толькі вопраткі – ты павінен пэўным чынам забаўляцца, пэўным чынам абстаўляць сваё жытло і гэтак далей. Ты павінен набываць і скарыстоўваць пэўныя рэчы, якія кажуць пра цябе, што ты варты ўвагі і пашаны. І гэта цалкам **нармальна**. Гэта спосаб жыцьця сучаснага грамадзтва. Грамадзтва Масавага Спажываньня.

## Грамадзтва масавага спажываньня

Што масавага ў сучасным спажываньні?

Па-першае, людзі спажываюць рэчы, якія вырабляюцца ў масавым парадку – партыямі па некалькі соцень тысяч. Кожны, як з канструктару, зьбірае з тых стандартызаваных рэчаў сваю непаўторную індывідуальнасьць.

Па-другое, кожны скарыстоўвае мноства рэчаў. Зьявілася шмат дробных спэцыялізаваных рэчаў, якія задавальняюць найдрабнейшыя патрэбы і нават найдрабнейшыя адценьні патрэбаў. Патрэбаў, якія кожны мае, але пра іх нават не падазрае, пакуль не пагледзіць рэкляму. Патрэбы, якія ёсьць унікальнай рысай кожнага, стандартызуюцца, бо пасьля дасканалага іх вывучэньня фірмы-вытворцы тавараў прапануюць вялікую, але ж не бясконцую колькасьць стандарных спосабаў іх задавальненьня. Зноў канструктар, зь якога мы зьбіраем сябе.

Колькасьць рэчаў, якія выкарыстоўваюцца, павялічвае таксама тое, што рэчы ймкнуцца да аднаразовасьці. Рэчы танныя і нізкай якасьці лёгка набываюцца і хутка выкідаюцца.

Але гэтак было не заўсёды. Першыя прыкметы вышэйзгаданага тыпу спажываньня зьвязаныя з новымі багацеямі ў ЗША напрыканцы XIX стагодзьдзя і жыхарамі эўрапейскіх мэгаполісаў таго ж пэрыяду.

Але сапраўдны пераварот у фэномэне спажываньня зьвязаны з "фардызмам" – створаным Фордам тыпам прамысловай вытворчасьці, заснаванай на канвэеры, высокіх заробках працоўных і нізкіх цэнах на прадукцыю. З тае пары вытворчасьць робіцца масавай, а спажыўцамі – ня толькі найбагацейшыя, але амаль усе. Грамадзтва спажываньня ў сваіх разьвітых кшталтах канчаткова ўсталёўваецца пасьля другой усясьветнай вайны.

Для кожнага стану грамадзтва (традыцыйнае, індустрыйнае, постіндустрыйнае) характэрны свой тып стаўленьня людзей да рэчаў. Гэтыя тыпы – ня проста пасьлядоўныя этапы разьвіцьця: яны суіснуюць, пераплятаюцца міжсобку, выступаюць як кантрасныя стылі жыцьця розных сацыяльных групаў, пакаленьняў, краінаў і тэрыторыяў.

Стыль спажываньня раньняга індустрыйнага грамадзтва быў блізкі да стылю спажываньня грамадзтва традыцыйнага. Рэчы былі дэфіцытам, складалі калектыўную каштоўнасьць. Людзі прыстасоўваліся да кожнай

Оркі



рэчы, рэч рабілася часткай асобы, ідэнтычнасьці, яна ўвасабляла жыцьцёвы шлях ня толькі дадзенага чалавека, але й ягонага сацыяльнага атачэньня. Рэчы сымбалізавалі повязь пакаленьняў ("Вось табе новая шапка. Гэта ня простая новая шапка, яна была ў нашай сям'і ўжо тры пакаленьні: яе насіў твой дзед, твой бацька, а цяпер яна належыць табе..."), выступалі часткаю эпохі, індывідуальнай і калектыўнай біяграфіі ("На гэтым ложку чальцы сям'і N зьяўляліся ў сьвет цягам пяцёх пакаленьняў, і твой прадзед, які служыў каралю K... VI, таксама нарадзіўся тут"), былі падмуркам звыклых паводзінаў.

Рэч была адкрытая чалавеку, у рэчаў была душа. Зь імі абыходзіліся сур'ёзна й ашчадна, ладная частка побытавай дзейнасьці была зьвязаная з доглядам рэчаў, іх абслугоўваньнем. К канцу жыцьця ў людзей назапашвалася багата старых рэчаў, якія адлюстроўвалі іх асабістую і калектыўную гісторыю. Рэчы вызначаліся гэтай гісторыяй, служылі ейным вынікам ("усё, што нажылі") і выражалі ейны сэнс. Такія адносіны да рэчаў можна пабачыць у нашых бабулек, якія нарадзіліся шчэ ў дваццатыя гады мінулага стагодзьдзя. У спалучэньні з сучасным побытам гэта дае кватэру-музэй (рупліва дагледжаныя старыя, дарагія, зь цяжкасьцю здабытыя ў гады савецкага дэфіцыту рэчы выстаўленыя тут як у музэі, як рэгаліі на пахаваньні, як сьведчаньне былой велічы сям'і) ці кватэру-"барахолку" (старыя рэчы зьберагаюцца таму, што яны каштавалі грошай і вось-вось могуць спатрэбіцца ўнукам).

Апошнім часам на сцэне гісторыі ўзьнікае новы стыль спажываньня, зьвязаны з постмадэрновым станам культуры.

Для гэтага стану культуры характэрнае яе ператварэньне з упарадкаванай структуры, дзе ўсе сымбалі й стылі раскладзеныя па сваіх палічках (ужываюцца ў пэўным месцы, пэўным чынам, спалучаюцца па пэўных правілах), у дзікі калейдаскоп разнастайных спалучэньняў (напрыклад, можна ўбачыць традыцыйныя аздобы першабытных індзейцаў амазонскай сэльвы на прадстаўніцах вышэйшага сьвету Эўропы, і гэта ня будзе бессэнсоўным спалучэньнем сымбаляў).

У чым спэцыфіка постмадэрновага стылю спажываньня? Спажываньне кардынальна зьмяняе свой характар: калі даўней гэта было спажываньне хлеба надзённага, дык цяпер гэта спажываньне сымбаляў. Ня так важная якасьць рэчы, бо яна выкарыстоўваецца толькі кароткі час, як важна тое, што яна азначае, якія якасьці свайго гаспадара яна можа сымбалізаваць. Мода губляе былую трываласьць. У выніку ў ёй мірна суседзяць рысы зусім розных стыляў: сьпадніцы міні й максі, чаравікі на пляцформе і шпількі і г. д. – эклектыка, немагчымая ў 1960–70-я гады. Таму мода постмадэрну стракаціць цытатамі са стыляў мінулых гадоў – цытатамі, якія лёгка пазнаюцца. На зьмену пагардліваму стаўленьню да мінуўшчыны, да даўніны прыйшоў яе культ. Стыль "рэтра" стаў сымбалем сучаснай постмадэрнісцкай культуры; тое, што яшчэ нядаўна без ваганьняў выкідалі на сьметнік, цяпер ашчадна аднаўляюць за шалёныя грошы і робяць прадмэтам гонару. Культурны плюралізм, культурная талерантнасьць, цікаўнасьць да іншых культураў – атрыбуты постмадэрну. Гэта выяўляецца ў тэндэнцыі фармаваньня й культываваньня этнічнага плюралізму. Этнічная іншасьць болей ня лічыцца знакам культурнай адсталасьці ці вяскоўшчыны. Гэтая іншасьць становіцца сымбалічным матэрыялам для выражэньня індывідуальнасьці той ці іншай рэчы альбо чалавека.







Грамадзтва масавага спажываньня адыходзіць у мінуўшчыну. Фактычна, у Заходняй Эўропе апагей яго разьвіцьця можна датаваць 1968 годам. З тае пары пачалося павольнае адступленьне вядучых цывілізаваных краінаў ад гэтага ўзору. Новае стаўленьне да рэчаў мае на ўвазе дысцыпліну, умеранасьць, экалягічнасьць, клопат пра здароўе, разважлівасьць і ахвярную справядлівасьць у дачыненьні да слабых, хворых, бедных, табу на марнатраўства.

Узьнікаюць альтэрнатыўныя мадэлі спажываньня. Крыніца першага варыянту – усеагульная заклапочанасьць экалягічнымі праблемамі. Гэта ёсьць, так бы мовіць, экалёгія іншага кшталту: шляхам экалягічна разумнага абмежаваньня сваіх патрэбаў можна пазьбегнуць вычарпаньня рэсурсаў Зямлі. Але нават стварэньне безадходных тэхналёгіяў і замкнёных цыкляў утылізацыі-вытворчасьці толькі запавольвае, але не спыняе разбурэньне навакольля.

Іншы варыянт эканамічнай мадэлі – культура беднасьці. Яна ўяўляе сабой суму сацыяльных навыкаў (суседзкая ўзаемная дапамога, догляд за дзецьмі тых, хто працуе і г. д.), эканамічных прыёмаў (стаўленьне да рэчаў: нічога не выкідаецца), своеасаблівую ідэалёгію супольнага выжываньня. Падзяляць культуру беднасьці ня значыць трымацца задавальненьня толькі прымітыўных патрэбаў. Можна прывесьці прыклады прынцыпова іншых спосабаў задавальненьня "дарагіх" патрэбаў: падарожжы аўтастопам, second hand, "танныя" захапленьні (талкінізм, "дзікі" турызм), FIDO замест INTERNET, гіпоўскія камуны (як сродак зьніжэньня выдаткаў на жытло)...

Такім чынам, стыль спажываньня пакрысе зьмяняецца. Хоць пакуль яшчэ, відаць, набярэцца няшмат ахвотных пажыць у камуне альбо паехаць аўтастопам у "зялёны рай". Якнебудзь паразважай пра гэта... ■

# Вучы замежную!

Дар'я Сітнікава

*Даўно-даўно, калі па зямлі хадзілі маманты, усё было проста: людзі размаўлялі на адной мове. Не было перакладчыкаў, таўшчэзных слоўнікаў і асьпірантаў недарэчнасьцяў. І вось у адзін прыўкрасны момант лафа скончылася. Па сёньняшні дзень "скрайняй" лічыцца Бабілёнская вежа. Старажытная будыніна ўжо даўно зраўнялася зь зямлёй, а праблема з разуменьнем іншаземцаў жыве. Зрэшты, у такіх "клінічных" выпадках правадыр сусьветнага пралетарыяту раіў "вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца ...".*

Да гэтай праблемы – маецца на ўвазе вывучэньне замежных моваў – існуе некалькі падыходаў.

Самы даступны – самаадукацыя. Стосы кніжак, працяглыя размовы са сьценамі, чытаньне слоўніка нанач... І вы гэтым будзеце займацца? Адказ прадказальны, таму адразу пераходзім да наступнага спосабу выраšэньня праблемы. Гэта курсы замежных моў.

У Менску безьліч устаноў, якія займаюцца асьветай насельніцтва ў гэтым накірунку. Зразумела, большасьць зь іх прапануе для вывучэньня ангельскую мову. Потым ідзе нямецкая, француская. Менш прапаноў па вывучэньні італійскай, польскай ды гішпанскай. "Труба" з усходнімі мовамі. Калі вы непапраўны індывідуаліст, у некаторых агенцыях вам могуць падабраць пэрсанальнага выкладчыка і пазбавіць такім чынам ад пошукаў рэпэтытараў па аб'явах. Індывідуальныя занятькі яшчэ нікому, зразумела, не зашкодзілі. Наадварот, гэта найбольш карысная й плённая мэтода. Калі толькі вашаму выкладчыку больш хочацца невядома які раз у жыцьці разьбірацца з Passive Voice ці Subjunctive Mood, а не натхнёна балбатаць пра надвор'е на сумесі "французскай зь ніжагародзкай". Зь іншага боку, занятькі ў групах таксама маюць свае плюсы: прыстасаваньне да чужой манэры вымаўленьня, напрыклад. У любым выпадку, вырашаць вам.

Дык дзе і, самае галоўнае, за колькі – як па часе, так і па грашох – можна авалодаць замежнай мовай?

Адразу скажам, што большасьць курсаў прапаноўвае занятькі 2-3 разы на тыдзень па 2-3 акадэмічныя гадзіны. Узроўні навучаньня прыкладна наступныя: Complete Beginners ("імбрыкі" – усё пачынаецца з альфабэту), Elementary (пачатковыя веды па курсе сярэдняй школы ці інстытут, Pre-intermediate (размова ў звычайных будзённых сытуацыях – Вы можаце запытаць, напрыклад, дзе мэтро), Intermediate (тое самае, што папярэдні ўзровень, толькі без памылак), Upper Intermediate (вашыя думкі і пачуцьці зразумелыя замежнікам), Advanced (а навошта вам курсы? Хаця давучвацца ніколі ня позна).

Дар'я Сітнікава

Узровень вашых ведаў звычайна высьвятляецца тэставаньнем.

Навучальны цэнтар International House (т. 231 60 07, Менск, вул. Гікалы, 9–306) у рэкамэндацыях, думаю, ня мае патрэбы. Ён працуе ў рэспубліцы ўжо восьмы сэзон. Поўны курс навучаньня на адным узроўні разьлічаны на 1 акадэмічны год. Заняткі ладзяцца 2 разы на тыдзень па 2 гадзіны ўвечары. Напрыканцы году студэнты праходзяць інтэнсіўныя курсы (заняткі – 4-5 разоў на тыдзень). International House абяцае, што "Вы навучыцеся выкарыстоўваць мову натуральным чынам", а ня будзеце завучваць адзін дзень з жыцьця містэра Браўна. Узровень вашых ведаў будзе вызначацца пры паступленьні. За чыста сымбалічную плату вы павінны прайсьці пісьмовы лексыка-граматычны тэст і вуснае сумоўе. Аволоданьне моваай "пацягне" на 110.000 р. за сэмэстар (2,5 месяцы). У цэнтры існуюць т. зв. Кембрыджэскія групы, па заканчэньні гадавога курсу ў якіх вы атрымліваеце сэртыфікат, што прызнаецца ў ЗША і краінах Эўропы. Пасьля пасьпяховай здачы іспытаў Брытанскай Радзе, зразумела. International House спэцыялізуецца ў асноўным на ангельскай мове, але прапануе таксама і нямецкую.

Чым вызначаюцца прыватныя цэнтры, дык гэта неабмежаванасьцю ўзросту навучэнцаў. Напрыклад, адукацыйнае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства "ФЛ КЛАСС" (вул. Рэвалюцыйная, 6, т. 223 48 62) прапануе навучаньне ангельскай мове ўжо зь 5 гадкоў. Але нашым чытачам такое не пагражае. Дарэчы, тут для навучэнцаў (якімі, няма сумневу, ёсьць і студэнты) зьніжкі –1,5 у.а. за гадзіну супраць дарослых 2$. Дробязь, але прыемна. Засваеньне праграмы аднаго ўзроўню займае 1 акадэмічны год. Тэставаньне – бескаштоўнае. Да таго ж, першыя два ўрокі – таксама дармовыя! Заяўкі прымаюцца цэлы год. Прапануюцца індывідуальныя выкладчыкі. Такая раскоша абыдзецца вам у 5 у.а. за гадзіну.

Ангельскую, нямецкую і францускую мовы можна павучыць і ў ДК прафсаюзаў (пр-т Скарыны, 25, т. 227 39 49). Праграма інтэнсіўнага навучаньня прадугледжвае 1 год шчыльных кантактаў з вучэбнай літаратурай. Калі ж вучыцца павольненька – 2 гады. Па заканчэньні – сюрпрыз. У выглядзе залікаў і іспытаў, а ў пасьведчаньні – адзнакі па тэорыі і практыцы. У верасьні ўсё гэтае задавальненьне каштавала 18.000 беларускіх рублёў (за 2 разы на тыдзень па 2 гадзіны).

Найбольшай папулярнасьцю карыстаюцца курсы замежных моў Цэнтральнага Дому афіцэраў. І гэта зразумела: яны існуюць з 1944 году. Праверана часам, так бы мовіць. Вывучаюцца ангельская і нямецкая. Праграма разьлічаная на 2 гады. Прымаюцца асобы зь 9 клясы. Набор, збольшага, ідзе з "нулявога" ўзроўню, таму тэставаньня няма. Але для занадта разумных – будзе. Каля 80% выкладчыкаў – з вышэйшай катэгорыяй. Кошты – 85.000 за сэмэстар. Гэта былі добрыя навіны. Зараз – дрэнныя. Першая плынь ужо набраная, да набору другой – чакаць і чакаць (15 студзеня наступнага году). І ў некаторых ёсьць рэальныя шанцы не дачакацца – перавага аддаецца афіцэрам (якія служаць, у запасе, у адстаўцы і г. д.), іх сем'ям, а таксама прадстаўнікам сілавых структураў.

Так што, таварышы цывільныя, можаце адпачываць. Хаця пры наяўнасьці месцаў прымаюцца ўсе ахвотныя. Але да гэтага справа даходзіць у выключных выпадках. Як сказаў дырэктар курсаў Яўген Уладзімеравіч Сіненка, "усіх задаволіць ня можам".

Аматарам "доўгаіграючых" практаў можна параіць зьвярнуцца ў "Современный мир". Гэтая ўстанова існуе з 1997 году пры БДПУ імя Танка і зьяўляецца структурнай адзінкай унівэрсытэту. За тры гады тут можна асіліць ангельскую, францускую, нямецкую, італійскую, польскую ці гішпанскую мовы ў групах па 10-15 чалавек, з пасэмэстравай аплатай у памеры 1 у.а. за гадзіну. Па заканчэньні атрымаеце дыплём дзяржаўнага ўзору – "Настаўнік замежных моваў". Больш поўную інфармацыю можна знайсьці на сайце **www.modernword.narod.ru.**

Атрымаць дыплём Менскага інстытуту кіраваньня рэальна за 2 гады. Для гэтага трэба наведваць 3 разы на тыдзень трохгадзінныя заняткі па ангельскай ці нямецкай мове. І не забывацца ўносіць у касу інстытуту 50 даляраў за сэмэстар на працягу 2 гадоў.

Але не абавязкова выдаткоўваць на курсы год, два ці нават тры. Існуюць цэнтры, дзе вас навучаць разумець суседзяў па Эўропе і ў больш сьціслыя тэрміны.

РІВШ БДУ (вул. Маскоўская, 15, т. 219 06 65), ESL (т. 266 15 13), "Флогиос" (вул. Чкалава, 12, т. 213 25 06, 224 31 11) зробяць гэта за тры месяцы. За 72 даляры (6 гадзінаў на тыдзень), 75 у.а. (4 гадзіны на тыдзень) і за 65-70 "зялёненькіх" (6 гадзінаў на тыдзень) адпаведна. Мовы – ангельская і нямецкая, у "Флогиосе" – яшчэ й польская. Залічаньне па выніках тэставаньня. ESL выдае міжнародныя сэртыфікаты TOEFL, GMAT, GRE.

Streamline (т. 213 33 92) прымусіць вас загаварыць па-ангельску (альбо па-нямецку) празь 5-6 месяцаў, калі будзе жаданьне зьяўляцца на заняткі 3 разы на тыдзень па 2 гадзіны (кошт 117.000 рублёў за сэмэстар – 2 месяцы), ці за 7-8 месяцаў – за 2 разы на тыдзень па 2 гадзіны (78.000 рублёў за сэмэстар). Educational process будзе адбывацца ў прысутнасьці яшчэ 7-9, максымум 11 чалавек і прафэсійнага пэдагога.

Навучаньне ў Step by Step (вул. Калініна, 6, т. 286 99 48 (з 14 да 20)) прадугледжвае 4 сэмэстры па 32 гадзіны. На выбар – 4-6 гадзінаў штотыдзень за 1.30$ за гадзіну. Ангельская, нямецкая, француская, італійская вывучаюцца на розных узроўнях у групах да 10 чалавек. Акрамя гэтага, Step by Step прапануе тыднёвую стажыроўку за мяжой – у Вялікай Брытаніі. Выезды адбываюцца 3-4 разы на год. Найбліжэйшая вандроўка – напрыканцы кастрычніка. 415 дал.+ віза за ваш кошт – і вы ў краіне аўсянкі і яечні з бэконам спасьцігаеце ангельскую мову ўсімі магчымымі спосабамі: ад банальных заняткаў да пазнавальных экскурсіяў і размоў зь мясцовым насельніцтвам падчас пражываньня ў брытанскай сям'і. У летні час ладзяцца больш працяглыя авіявандроўкі. Ёсьць магчымасьць абраць для навучаньня школу па вашым гусьце. Карацей, любы капрыз за вашыя грошы.

Гэта толькі малая частка ўстановаў, што прагнуць навучыць вас замежнай мове. Навошта? Ну, хаця б каб не чытаць у краме на шклянцы з заморскім дзіцячым харчаваньнем замест "baby" – "бабу"...

А калі сур'ёзна, то, напрыклад, для таго, каб паўдзельнічаць у розыгрышы (які ладзіць каліфарнійскі Devise University супольна зь беларускім Цэнтрам культурных абменаў EXPO TRAVEL) 1 бясплатнага месца на 9-тыднёвыя моўныя курсы ў ЗША. Веданьне ангельскай мовы – абавязковае!!! Вашыя рэзюмэ чакаюць па адрэсе: вул. Сурганава, 47. Тэлефоны для даведак: 202 00 81, 231 16 93. Internet-адрэса: **www.gcce.org**

Больш падрабязная інфармацыя пра Цэнтар і ягоныя праграмы – у наступным нумары "Студэнцкай Думкі"!

■





# Вучыцца ў ЗША...

Вольга Цыцёркіна

*Нeяк у жніўні ў цэнтры IATP (Internet Access and Training Program) адбыўся сэмінар "Што трэба ведаць, калі ты хочаш паехаць вучыцца ў ЗША". Выступоўцам быў Сымон Сьвярдлоў, выпускнік адной з праграмаў цэнтру, студэнт амэрыканскага ўнівэрсытэту.*

Безумоўна, аплаціць навучаньне ў Амэрыцы беларуская сярэднестатыстычная сям'я ня здолее – бо гэта больш за 20 тысячаў даляраў у год. Таму застаецца шукаць праграмы, па якіх можна знайсьці сродкі. Сымон знайшоў свой шанец у сваёй рэлігійнай арганізацыі. Ён адзначыў, што якая б арганізацыя ні давала магчымасьць вучыцца, гэта ўсё адно ёсьць укладаньнем грошай. А грошы ў Амэрыцы – гэта і самарэалізацыя, і здароўе, і дабрабыт. І калі людзі ўкладаюць у нешта, значыць, яны зацікаўленыя ў прыбытку. Прычым адукацыя не зьяўляецца выняткам. Калі грошы ўкладаюцца ў асобу, то ёй трэба будзе адпрацаваць па спэцыяльнасьці пэўную колькасьць год на ўкладальніка, прычым з заробку будуць рабіцца адлічэньні.

Пры паступленьні ў ВНУ трэба здаваць TOEFL (ангельская як другая мова). Здаецца таксама SIT – тэст для выпускнікоў сярэдніх амэрыканскіх школаў. Часам некаторыя праходзяць псыхамэтрычны тэст, дзе правяраецца лёгіка разважаньняў (для прыкладу можна прывесьці сказ з прапушчаным словам і чатырма варыянтамі адказу), – тэст на ровень IQ.

На навучаньне магчыма атрымаць грант – безадсоткавую дапамогу, якую даюць замежныя фонды. З гэтай магчымасьці могуць скарыстацца асобы, якія маюць здольнасьці, добра навучаюцца, займаюцца грамадзкай працай і г. д.

Можна паспрабаваць атрымаць дзяржаўную пазыку, якая бывае розных тыпаў у залежнасьці ад прыбыткаў сям'і. Адмыслоўца, пачаўшы працаваць, аддае грошы з адсоткамі. Каб атрымаць пазыку, пэўная асоба – грамадзянін ЗША – мусіць выступіць гарантам. Ім можа стаць хто-небудзь з родных ці знаёмых. Лічыцца нармальнай пазыка каля шасьці тысячаў даляраў у год. Гэта дазваляе спакойна вучыцца, бо ўсё, што патрэбна для навучаньня, ёсьць ва ўнівэрсытэце – бібліятэкі, кампутары, доступ да Інтэрнэту й інш.

Для таго каб паступіць у ВНУ і атрымаць грашовую дапамогу, неабходна мець даведку пра гадавы прыбытак сям'і, а таксама пра эканамічны стан тваёй краіны (гэта могуць быць афіцыйныя матэрыялы, перакладзеныя артыкулы).

Атрымаўшы стыпэндыю ад унівэрсытэту, напрыклад, на пражываньне ды харчаваньне, студэнт забясьпечвае сабе спакойнае жыцьцё.

▶

Вольга Цяцёркіна

Працаваць студэнтам забаронена. Некаторыя, вядома, пераступаюць закон. Але ёсьць і легальны спосаб – атрымаць афіцыйны дазвол на працу. Памятайма аднак, што студэнт у ЗША можа працаваць толькі з другога курсу. Ёсьць абмежаваньні й па часе: да 20 гадзінаў на тыдзень у час навучаньня і да 168 гадзінаў падчас вакацыяў ці сьвятаў. Такі дазвол атрымаць няпроста. А студэнту-замежніку гэта зрабіць яшчэ цяжэй, бо амэрыканцы, вядома, зацікаўленыя браць на працу (пры іншых роўных умовах) сваіх. Існуе шэраг палажэньняў, па якіх можна прэтэндаваць на дадзенае права (падрабязьней – на дзяржаўным штатаўскім сайце: www.state.gov).

Пры ўсім тым на тэрыторыі ўнівэрсытэту працаваць дазваляецца. Гэта можа быць дапамога іншаму студэнту – рэпэтытарства. Такім чынам падвышаецца ровень ведаў у абодвух студэнтаў. Па такога кшталту працу можна зьвярнуцца да *Foreign Adviser* – чалавека, які дапамагае замежным студэнтам. Плюсам ёсьць тое, што калі сума прыбытку не дасягае пэўнае плянкі, падатак сплочваць ня трэба.

Амаль ва ўсіх ВНУ ёсьць выхадцы з былога СССР. Зразумела, міжсобку яны кантактуюць даволі цесна. Дыскрымінацыі, пагардлівага стаўленьня да іх не назіраецца, але прысутнічае недавер. На тое ёсьць прычыны: у ЗША ўсё стандартызавана – скончыў школу, потым коледж, пайшоў на працу, набыў машыну, дом і г. д. Амэрыканцы не разумеюць, якім чынам эмігранты вельмі хутка набываюць вялікія дамы. Да таго ж, рэгулярна цыркулююць чуткі пра "расейскую мафію"...

Калі паступаеш у штатаўскі ўнівэрсытэт, маючы нясконченую вышэйшую адукацыю, ёсьць магчымасьць пераралічэньня іспытаў. Загаднік катэдры неафіцыйна задае табе некалькі пытаньняў, і калі ён бачыць, што ты добра арыентуесься ў прадмэце, перазалічае яго.

Шмат хто адзначае, што ў ЗША вучыцца лягчэй. Штатаўская адукацыя лічыцца сфакусаванай на вузкай спэцыяльнасьці, у адрозьненьне ад комплекснай эўрапейскай адукацыі. У амэрыканскіх ВНУ праходзяць пэўную колькасьць прадмэтаў па спэцыяльнасьці і 3–4 прадмэты, што дапаўняюць адукацыю. Наша адукацыя ёсьць больш шырокай. Але, зь іншага боку, у нашай вышэйшай адукацыі больш хібаў, бо ВНУ прапануюць шмат непатрэбных прадмэтаў. Затое айчынныя выкладнікі збольшага ставяцца да свайго прадмэта з душой, тады як у ЗША прысутнічае адно халодны прафэсіяналізм. Калі амэрыканскі студэнт дасягае посьпеху на канфэрэнцыях, алімпіядах, гэта толькі лішні даляр у кішэню выкладніка і больш нічога.

Звышнамогаў у амэрыканскім навучаньні прыкладаць ня трэба, але пэўных высілкаў яно вымагае. Усё ва ўнівэрсытэце прыстасавана для навучаньня: доступ да кампутараў адкрыты цэлы дзень, бібліятэкі працуюць да 2-ой ночы, а калі студэнту трэба застацца, то бібліятэкар ня стане яго выганяць.

На вячэрнюю, завочную форму навучаньня замежніку паступіць больш складана, бо патрабуецца іншая віза. Студэнцкую візу даюць толькі студэнтам стацыянару. У Рэспубліцы Беларусь студэнцкую візу ў ЗША даюць на тэрмін, не даўжэйшы за год. Часта амбасада адмаўляе ў візе. Але калі гэта адбываецца, супрацоўнікі амбасады маюць рацыю, бо бачаць сытуацыю зьверху, ведаюць шмат выпадкаў, калі студэнты заставаліся нелегальна альбо напаўлегальна. Праблематычна атрымаць візу прыгожым незамужнім дзяўчатам.

Другое, што лічыцца галоўным пасьля прыбытку ў ЗША, – прафэсіяналізм. Нярэдка можна сустрэць людзей, якія мяняюць сваю спэцыяльнасьць у 40–50 год. Самыя папулярныя прафэсіі на сёньня – мэдык, адвакат, спэцыяліст у сфэры высокіх тэхналёгіяў.

Шанец застацца працаваць у ЗША залежыць ад прафэсіяналізму асобы. Фірма павінна быць зацікаўленая ў вас. Напрыклад, калі ў вашае спэцыяльнасьці зараз нястача адмыслоўцаў ці вы зьяўляецеся ўнікальным у сваёй сфэры супрацоўнікам.

Сваю справу замежніку адкрыць вельмі лёгка – за 2–3 гадзіны. Але варта ведаць, што рынак перанасычаны ідэямі, і, калі ты хочаш пачаць бізнэс, трэба, каб ідэя была арыгінальная. Улічэце і другое: цэняцца тыя ідэі, якія прыносяць рэальную карысьць дзяржаве.

Кожны чалавек у ЗША можа браць крэдыты, якія разам з судовымі справамі (у горшым выпадку) складаюць крэдытную гісторыю. Тут фіксуецца сума, якую чалавек атрымаў, тое, як акуратна ён сплочваў крэдыт... Крэдытная лінія ў выпадку акуратных выплатаў расьце: пасьля таго, як ты выплаціў 500 даляраў, могуць даць тысячу і г. д. За невяртаньне 500 даляраў не пасадзяць, але й наступную большую суму не дадуць.

Вось, відаць, і ўсё. Наагул, пра IATP, мяркую, мы распавядзем некалі больш падрабязна. А пакуль – бывайце здаровенькія! Вой, ледзьве не забылася: стандартная мэдычная страхоўка ў ЗША складае 38 даляраў у месяц.








Зьміцер і Сяргей Зікрацкія

*Рубрыка "Маеш права" існавала ў нашым часопісе ад самога пачатку. Праўда, назовы яна мела розныя: скажам, было нешта такое пра дуру... а, вось – Dura lex sed lex! Шчыра кажучы, сёлета, пры канцы вясны й на пачатку лета, прававая тэматыка чамусьці заставалася па-за нашай увагай... Але вашыя лісты й тэлефанаваньні, шаноўныя чытачы, задушылі наш рэдакцыйны склероз ужо на зародкавай стадыі, за што вам усім вялікі дзякуй. І сёньня мы прэзэнтуем рубрыку "Маеш права" ў новым выглядзе. Адсюль і надалей нашыя сталыя (у сэнсе досьведу, а ня ўзросту!) аўтары – а да таго ж, прафэсійныя юрысты –* ***Зьміцер і Сяргей Зікрацкія*** *будуць ня толькі распавядаць пра цікавыя выпадкі са сваёй практыкі, але й адказваць на вашыя пытаньні. Такім чынам, да ўсіх вартасьцяў "Студэнцкай Думкі" дадаецца яшчэ адна – у асобах Сяргея і Зьміцера вы заўсёды знойдзеце бескаштоўных кансультантаў па ўсіх пытаньнях, датычных прававых праблемаў студэнцтва. Так што тэлефануйце, пішэце на рэдакцыйны e-mail альбо дасылайце свае пытаньні па пошце з пазначкай "Маеш права" – і чытайце адказы ў наступных нумарох "СD"! А сёньня ў нашай рубрыцы вы даведаецеся пра*

## грошы "на рамонт" і...

***Максім К. (Менск):***

***"У інтэрнатах БДУ ўжо існуе "добрая" традыцыя: амаль штомесяц вывешваюцца абвесткі, у якіх паведамляецца, што ўсе насельнікі мусяць даплаціць за пэўны месяц пэўную суму за пражыцьцё. І гэта нягледзячы на тое, што мы і так спраўна сплочваем грошы за інтэрнат. А ў "дзясятцы" дык наагул перад вакацыямі запатрабавалі з кожнага жыхара па 4.000 рублёў "на рамонт", прычым не высялялі й не разьлічвалі тых, хто не заплаціў. Кажуць, перад прыездам у "дзясятку" дырэктара студгарадка абвестку сьпехам зьнялі, але пасьля зноўку павесілі. Рамонт, праўда, зрабілі, ды наўрад ці тая фарба каштуе столькі грошай (у інтэрнаце жыве не адна сотня студэнтаў). Ці мела права адміністрацыя зьбіраць з нас грошы?"***

Пражываньне ў інтэрнатах рэгулюецца Жыльлёвым кодэксам, а таксама Палажэньнем аб інтэрнатах, што зацьверджана Пастановай Савету міністраў. Кошт і парадак аплаты за пражываньне вызначаецца ў дамове, якую падпісвае кожны студэнт, што пражывае ў інтэрнаце, і адміністрацыя інтэрнату (альбо ВНУ). Цалкам верагодна, што ў вашай дамове запісаны парадак, пры якім адміністрацыя кожны месяц індэксуе аплату за пражываньне. Таму патрабаваньні дадатковае платы за інтэрнат будуць правамернымі, але тады аб гэтым кожны месяц мусіць выдавацца загад рэктара ВНУ. Калі ў дамове не запісана, што кошт пражываньня ў інтэрнаце індэксуецца і вызначаецца кожны месяц, то ўсё залежыць ад таго, на якія мэты скіраваныя гэтыя спагнаньні. Цалкам верагодна, што адміністрацыя проста здымае са студэнтаў грошы, якіх не хапае на разьбітыя вокны, выкручаныя лямпачкі й г. д.

Дзеля высьвятленьня законнасьці патрабаваньняў неабходна ведаць наступнае. Капітальны рамонт, у адпаведнасьці з палажэньнем, праводзіцца за кошт сродкаў наймадаўцы (г. зн. зь бюджэту інтэрнату). Бягучы рамонт праводзіцца як за кошт наймадаўцы, так і за кошт наймальнікаў (студэнтаў). Аднак на студэнтаў накладаецца абавязак рабіць бягучы рамонт выключна жыльлёвых памяшканьняў, што знаходзяцца ў іх асабістым карыстаньні (г. зн. пакояў, у якіх яны пражываюць), а кіраўніцтва інтэрнату павінна рабіць рамонт месцаў агульнага карыстаньня (калідораў, прыбіральняў, кладовак і г. д.). Такім чынам, калі камэнданты зьбіраюць грошы дзеля таго, каб пафарбаваць сьцены ў калідорах, то гэта незаконна, і вы можаце спасылацца на нормы Палажэньня аб інтэрнатах.

*І апошняе: дзеля таго, каб быць упэўненым, што вашыя грошы (на якія б мэты яны ні зьбіраліся) ня пойдуць у кішэні вахтэрак, камэндантаў, майстроў і г. д., патрабуйце, каб аплата ажыцьцяўлялася* выключна *праз касу навучальнае ўстановы альбо праз банк. Ніякія іншыя спосабы (расьпіскі вахтэркі, сьпісы, складзеныя й падпісаныя камэндантам і г. д.) не гарантуюць, што гэтыя грошы будуць накіраваныя на тое, дзеля чаго іх зьбіралі.*

## ...грошы на дзіця

***Міхась Ценька (Гомель):***

***"Мы – я і мая жонка – студэнты. Стыпэндыя, самі ведаеце, мізэрная, і, хоць я й падпрацоўваю, грошай увесь час не хапае. Па хуткім часе жонка павінна нарадзіць дзіця. Падкажыце, ці маем мы права на матэрыяльную дапамогу і куды нам па яе зьвяртацца".***

Нарматыўныя акты не рэгулююць парадак разьмеркаваньня матэрыяльнай дапамогі. Часьцей за ўсё памеры фонду матэрыяльнай дапамогі вызначаюцца калектыўным пагадненьнем паміж адміністрацыяй ВНУ і мясцовым прафсаюзам і складаюць звычайна пэўны адсотак ад стыпэндыі, што налічваецца на ўсім факультэце. Адпаведна і правам на разьмеркаваньне гэтай матэрыяльнай дапамогі валодае прафсаюз і дэканат. Звычайна на сумесным пасяджэньні прафсаюзу і прадстаўніка дэканату вызначаецца, каму й колькі грошай налічыць. Зразумела, што нараджэньне дзіцяці (гэтаксама, як і вясельле) зьяўляецца добрай падставай для выдзяленьня дапамогі. Таму пішэце заяву ў адвольнай форме і нясеце яе праформгу факультэту альбо той асобе ў дэканаце (звычайна гэта намесьнік дэкана), што курыруе пытаньні ўзаемаадносінаў дэканату і прафсаюзу.

Юрась Баркоўскі

# Экзотыка, якую нідзе болей ня ўбачыш

*Традыцыйна вольны час я імкнуся прысьвячаць вывучэньню беларускай чыгуначнай экзотыкі. Вось і ў ліпені бягучага году мы з двума сябрамі-чыгуначнікамі зьдзейсьнілі вандроўку на вузкакалейную чыгунку з шырынёй каляі 750 мм, якая знаходзіцца ля горада Рудзенск і па якой перавозяць торф. Варта зазначыць, што дагэтуль я быў на гэтай чыгунцы разам зь дзядзькам, які мае лецішча ў тых краёх. Тады я нічога цікавага ня ўбачыў, але даведаўся ад вартаўніка, што зь мястэчка Праўдзінскі да Рудзенску і назад штодзень, прыкладна а дзясятай гадзіне раніцы, ходзіць цеплавоз – мяняе вартаўнікоў на станцыі Рудзенск, якая служыць толькі для перагрузкі торфу на шырокую каляю і цяпер працуе досыць рэдка.*

У чацьвер ранкам я з маімі сябрамі Віталем і Сержуком выехаў на электрацыі зь Менску на Рудзенск. Час мінуў хутка, і вось мы ўжо дэсантуемся на вакзале ў Рудзенску й кіруемся да вузкакалейкі, да якой нам трэба прайсьці болей за два кілямэтры.

Паблукаўшы крыху па ваколіцах Рудзенску, мы нарэшце выйшлі да вузкакалейнага пераезду. Перад намі адкрылася сумнае відовішча. Навокал усё зарасло пустазельлем. Рэйкі ржавыя і крывыя. Склалася ўражаньне, што тут ужо колькі год ніхто на езьдзіў. Але па тым, што вагоны на шляхах сталі ў іншым парадку, чым раней, я здагадаўся, што жыцьцё тут ёсьць. Падышоўшы да будынку вартаўніка, мы ўбачылі на ім велізарны замок. Тут ужо мае сябры пачалі абурацца: маўляў, куды ты завёў нас, Сусанін-герой? Я і сам засумняваўся, што абяцаны цеплавоз прыедзе. Але мы вырашылі пачакаць. Праз колькі хвілінаў, пачуўшы знаёмыя гукі, я высунуўся з-за будынку. Да нас, нібыта проста па траве, нёсься маленькі аранжавы цеплавозік ТУ8 – 0382! У ім прыехалі вартаўнік рудзенскай станцыі, састаўляльнік, машыніст і яшчэ нейкая жанчына. Нас адразу пытаюць, хто мы й адкуль. Калі мы сказалі машыністу, што прыехалі зь Менску і хацелі б праехацца цеплавозам да Праўдзінскага, той параіў нам спачатку набыць квіткі. Калі ж Віталь спытаў, дзе тут каса, мы ўсе расьсьмяяліся.

Покуль цеплавоз стаяў, мы вырашылі пафатаграфавацца. І вось я здымаю і чую голас машыніста: "А ці вы ведаеце, што фатаграфаваць нельга?" Гляджу на яго – усьміхаецца. Думаю: "Дзякуй Богу, пранесла". Некалькі разоў мяне ў такіх сытуацыях не праносіла...

Праз колькі хвілінаў мы забраліся ў кабіну і паехалі. Як гасьцям, нам былі прапанаваныя сядзячыя месцы. Па дарозе машыніст распавядаў пра канструкцыю цеплавоза і пра чыгунку. Шлях там досыць дрэнны, цеплавоз даволі моцна гойдала й трэсла, ехаць было нават страшнавата. На мосьце праз Пціч машыніст спытаў мяне, ці хачу я сфатаграфаваць мост. Я адпавеў, што хачу, але не разумею, як гэта зрабіць. У адказ машыніст даў задні ход, высадзіў мяне ля пачатку моста, а сам паехаў на мост. Я сфатаграфаваў цеплавоз на мосьце, потым лякаматыў вярнуўся, забраў мяне, і мы рушылі далей, аглядаючы праз вокны сумна-занядбаныя беларускія краявіды.

*Той самы ТУ8 – 0382*



*На мосьце*



Праз некаторы час мы пад'ехалі да дэпо. Састаўляльнік уручную перавёў стрэлку, і вось ужо мы едзем па тракцыйных шляхах. На мой подзіў, там панавала ажыўленьне. Сям-там працавалі рабочыя, некалькі чалавек гутарылі, аднекуль выяжджала самаходная электрастанцыя са шляхаўкладнікам. Побач драмала яшчэ некалькі цеплавозаў; на ўсялякі выпадак стаяў пажарны цягнік – чатыры цыстэрны з вадой і пасажырскі вагон; чакаў зімы сьнегаачышчальнік.

Наш машыніст правёў для нас кароткую экскурсію па дэпо і некуды зьнік, а мы пайшлі самастойна аглядаць гаспадарку. Досыць нагуляўшыся, высьветлілі расклад руху аўтобусаў да Рудзенску і вырашылі схадзіць на цэнтральную станцыю. Мінулі закінуты стрэлачны пост і ўбачылі даволі аптымістычную карціну: шэсьць шляхоў станцыі былі цалкам застаўленыя маленькімі аранжавымі вагончыкамі з торфам! Значыць, добра працуе вузкакалейка!

У памяшканьні дзяжурнага нас сустрэла ветлівая жанчына, якая выконвала таксама й абавязкі дыспэтчара. Яна распавяла нам сёе-тое пра чыгунку. Аказваецца, на ёй даволі інтэнсіўны рух: вывозіцца торф з палёў, ходзяць пасажырскія й гаспадарчыя цягнікі. Але нам не пашанцавала: у той дзень торфазавод дзеля няспраўнасьці не прымаў сыравіну і руху не было, а інакш мы мелі б магчымасьць зьезьдзіць і на палі. Дарэчы, адну зь ліній чыгункі нават даволі значна падоўжылі да новага месца здабычы торфу.

Мяне вельмі ўразіла тое, што на вузкакалейцы няма ніякай сыстэмы кіраваньня цягнікамі – уся арганізацыя руху праводзіцца па радыёсувязі! На гэтай чыгунцы нават няма ніводнага сьветлафора!

Разьвітаўшыся зь дзяжурнай, мы рушылі далей. Прайшлі ўсю станцыю, дабраліся да стрэлкі, дзе пачынаецца новая лінія на поўдзень. Адтуль вузкакалейныя лініі разыходзяцца ў розныя бакі па вузкіх высечках праз глухі зялёны лес. Міма нас да дэпо праехаў цеплавоз ТУ6, я вырашыў яго не фатаграфаваць, бо ў ім ехала шмат людзей, і іхную рэакцыю прадбачыць было немагчыма. Якраз падышоў час перакусіць, і мы расклалі свае прыпасы проста на стрэлцы, прычым я сядзеў на рэйцы, парушаючы ўсе магчымыя нормы бясьпекі. Мой сябар Віталь, дыпляманаваны пуцеец, меў магчымасьць ацаніць тэхнічны стан шляхоў. Ацэнка была наступнай: "Я ля такога стыку кушаць не магу!" Крыху адпачыўшы, мы вырашылі кіравацца ў бок Рудзенску. Да аўтобуса было яшчэ дзьве гадзіны, а па чыгунцы, нагадаю, цеплавоз ходзіць туды наагул раз на содні. І тут камусьці з нас прыйшла ў галаву вар'яцкая думка: хадзем пешкі! Там было дванаццаць кілямэтраў... Мы зайшлі да дзяжурнай па ваду і рушылі...

Ідзем. Сонейка прыпякае. Вады ўсё меней. Спачатку была думка пакупацца ў Пцічы, мы з моста палюбаваліся еймі зялёнымі берагамі з хмызамі ўздоўж вады, але купацца не рызыкнулі – не было пляжу. Калі мы прайшлі амаль палову шляху і дапялі пераезду, стала зразумела, што без вады ісьці будзе вельмі цяжка. Доўга й безвынікова шукалі мы тую жыватворную вільгаць, аж покуль не заўважылі нарэшце воданапорную вежу, зь якой ліўся струмень вады! Зь вялікім задавальненьнем выкупаліся, напоўнілі пустую пляшку, адпачылі і рушылі далей.

Мы зноўку вырашылі крыху зрэзаць і пайшлі не па шашы, а напрасткі. Прыкладна праз паўтары гадзіны, крыху паблукаўшы, выйшлі на ўскраіну Рудзенску. Стомленыя, але задаволеныя, селі ў электрычку на рудзенскім вакзале. Нашая вандроўка блізілася да заканчэньня. Мы сядзелі ў вагоне і абмяркоўвалі свае ўражаньні...

*Пажарны цягнік*



# ТВОРЦА І ЎЛАДА

Вольга Коваль

*Эсэй*

*Па шматлікіх прычынах здараецца так, што кожная ўлада ў дзяржаве імкнецца ў першую чаргу падпарадкаваць творчых асобаў – паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў. Аднак асабліва выразна гэта праяўляецца, калі ўлада нагадвае дыктатуру ці менавіта такой і ёсьць. У якасьці прыкладу можна прывесьці жудасны і вар'яцкі пэрыяд айчыннай гісторыі – гады ўсталяваньня й узмацненьня савецкай улады, час рэпрэсіяў і незьлічоных надзеяў. Менавіта той пэрыяд, калі мэханізм, які зьнішчаў ці ламаў жыцьці людзей, працаваў адметна.*

Сьмерці, забойствы, арышты, высылкі... І быццам бы ў супрацьлегласьць чалавечаму гору зьяўляюцца вершы, цудоўныя творы, якія часам, здаецца, напісаныя чалавечай крывёй.

Асабліва ўражвае жаночая паэзія, створаная ў гэткі час надзвычай моцнымі жанчынамі. Наагул, вершы жанчын – гэта своеасаблівы сьвет, галоўнае ў якім – пачуцьці, бязьмежная колькасьць пачуцьцяў. А калі талент паэткі рэжым ці ўрад спрабуе ўлагодзіць пэўнымі прапановамі ці зьнішчыць – напрыклад, высылкай, – гэтыя жаночыя пачуцьці спалучаюцца з сапраўдным трагізмам, і атрымліваюцца такія творы, ад якіх проста сьціскае ў грудзёх.

Ларыса Геніюш ёсьць знакавай асобай свайго часу. Сапраўды, вершы паэткі кранаюць, бо ў кожным радку адчуваеш велізарны боль за Радзіму, за сваіх родных, за ўсіх тых, хто ёсьць беларусам і змагаецца за сваю Беларусь.

***О Краіна шчасьця, родная матулька,***
***О Краіна ясных, незабытых дзён!***
***На шырокім сьвеце не найду прытулку,***
***Не прывыкну сэрцам да чужых старон!***

У біяграфіях Геніюш можна знайсьці той факт, што паэтку адкрыла газэта "Раніца", якая выдавалася ў Бэрліне пры міністэрстве ўнутраных справаў з 1939 па 1945 гг. Але што гэта было за выданьне? Якія артыкулы там зьмяшчаліся?

Зразумела, газэта, якую выдавалі ў часе вайны ў Бэрліне беларускія эмігранты, папросту мусіла тлумачыць палітыку Нямеччыны, распавядаць пра баявыя дзеяньні ў сьвеце. Інакш было немагчыма. Друкаваліся таксама і матэрыялы пра Беларусь, пра становішча на радзіме ды пра ейную гісторыю. З пачаткам вайны нагляд над выданьнем ажыцьцяўляла нямецкае міністэрства ўсходніх акупаваных абшараў, уважліва адсочваючы, каб першыя палосы аддаваліся пад пераможныя рэляцыі з усходняга фронту.

Даволі тыповым для першае старонкі ёсьць артыкул, прысьвечаны дню народзінаў Гітлера – "Місія Адольфа Гітлера", – у якім аўтар разважае пра "геній" дыктатара і пра ягонае "вялікае гістарычнае заданьне". Каб адпавядаць "афіцыйнай ідэалёгіі" (словазлучэньне, актуальнае і сёньня, ці ня так?), газэта зьмяшчала і антысэміцкія артыкулы, дзе выказваліся меркаваньні пра шкоднасьць і непатрэбнасьць у сьвеце габрэйскага насельніцтва.

Але на апошніх старонках "Раніцы" былі зусім іншыя матэрыялы: там шырака асьвятлялася жыцьцё беларусаў на эміграцыі. Газэта пісала і пра гісторыю краю, пра становішча беларускіх гарадоў... Назовы рубрыкаў кажуць самі за сябе: "Беларуская кроніка", "Пазнайма свае месцы".

Як згадваюць чытачы газэты, яны выпісвалі яе, каб нешта даведацца пра Беларусь ды атрымаць вершы Ларысы Геніюш. Сапраўды, "Раніца" сталася для паэткі амаль адзіным шляхам да сваіх чытачоў. Ня трэба забывацца і на той факт, што большасьць беларускіх эмігрантаў лічыла ворагамі сваёй радзімы і немцаў, і бальшавікоў. І лёс часам прымушаў абіраць бок першых.

Ларыса Геніюш жыла й працавала на чужыне, менавіта таму яе ўспаміны, ейная знакамітая "Споведзь", ёсьць сапраўды выдатнай крыніцай па гісторыі беларускае эміграцыі. "Споведзь" зьмяшчае самае каштоўнае – атмасфэру беларускай эміграцыі, тыя жыцьцёвыя дэталі, якіх ніколі ня знойдзеш у навуковых працах. Ларыса Геніюш адчула ціск двух таталітарных рэжымаў, нацысцкага й камуністычнага, якія зламалі ейнае жыцьцё, зьнявечылі душу і забілі родных. Толькі чалавек са збалелай душой, які перажыў страту ўлюбёных асобаў, мог напісаць гэткія словы: "Не, людзі, якія йдуць за народ свой змагацца, ня маюць права мець сем'яў, рабіць няшчаснымі сваіх дзяцей".

Творы Ларысы Геніюш злучаюць асабістае – тыя жудасныя выпрабаваньні, што выпалі на долю паэткі, – і грамадзянскае. Гэтая жанчына, рызыкуючы сабой, сваёй сям'ёй, усё жыцьцё змагалася за Беларусь, сьведама пайшла на пакуты дзеля Бацькаўшчыны...

***Плача ноч сузор'ямі,***
***зь ёй – душа мая...***
***Не для чорных воранаў***
***песьня салаўя!***





Вітаўт Мартыненка




## "Zet", "З Новым годам!" Каўчэг/ Лінія гуку, 2001

*Ну вось, нарэшце, і зьявіўся гэты доўгачаканы прадукт, попыт на які ўзьнік яшчэ на мінулагоднім "Басовішчы", калі ніхто нават ня ведаў, як пісаць назоў гурту: адны малявалі таямнічы знак Зора – Z, другія проста кірыліцай азначалі тое, што чулі, – "Зэт", а ў афішы "Басовішча-2000" яны ўвогуле стаялі як "The Z". Такая была блытаніна, што захопленыя пакупнікі беларускай музычнай яткі ў Польшчы арыентаваліся не на назоў гурту, а на ягоны імідж: "Czy sa jakies nagrania tego zespolu w takich bialych komienarkach?" – марна пыталіся яны .*

"Награняў" тады не было, затое плётак – процьма. Адна зь іх – пра тое, што нібыта Канцлер, вакаліст гурту, мае нешта агульнае зь Лявонам Вольскім. Па шчырасьці, і я падаўся на гэтую правакацыю газэты "Беларуская маладзёжная", бо й напраўду голасам Канцлер нагадвае двойчы рок-караля.

Памятаеце французскую гісторыю "Чалавек у жалезнай масцы"? Канцлер хоць і не ў жалезнай, але ж у масцы, факт. Вунь нават на вокладку дыску гляньце – усё тая ж белая маска. Чаму?

Унікальны архіўны матэрыял падсунуў мне знакаміты беларускі paparazzi, які друкуецца ў "Нашай Ніве" пад сьціплым псэўданімам Слухач.

Аказваецца, гісторыя пачалася шчэ ў далёкіх 60-х, калі ў адной радзільні беларускай сталіцы адну шаноўную сям'ю напаткала радасьць – на сьвет зьявіліся двайняткі. Праўда, сям'я пра гэта так і не здагадалася, і праз пару тыдняў шчасьлівую мамку выпісалі з падрослым ужо хлопчыкам Лёнікам.

А тым часам хціўныя ворагі беларушчыны нездарма мелі наўду на таленавітае семя, зьвезшы другога водпрыска ў далёкія заўральскія стэпы.

Што вырасла зь Лёніка, ведае кожны заўсёднік "Рок-каранацыяў". У яго тых каронаў – хоць краму адчыняй.

Другі ж вельмі хутка адчуў горкі смак малака чужой маткі. І зьбег... Думаў падацца дадому – аж лёс занёс у Нямеччыну. Хоць і падсеў ён там крыху на маркі (не для капэртаў), але ўсё адно сох па радзіме. А каб ня зьехаць з глузду, апантана вучыў родную мову ў дыхтоўных бібліятэках *Bjelarussisches Institut* Ляймэну й Мюнхену. Тады ж да яго й прычапілася мянушка – Канцлер.

І яшчэ адно: плёткі пра колішняе супрацоўніцтва бэк-вакаліста з музыкамі англамоўнага гурту "Hasta La Fillsta" ўсё ж маюць нейкія падставы, бо, спаткаўшы ў Гамбургу (знакамітым прытоне адкідаў ангельскага року) гітарыста Стронга, Канцлер даручыў яму знайсьці сяброў для захопу беларускай рок-імпэрыі (так ён хацеў адпомсьціць крыважэрным чужынскім "вяршыцелям лёсаў"). Стронг ня ведаў беларускай мовы, але ж параіўся з колішнім сваім кампаньёнам бубначом Портэрам, і яны вырашылі разам ухапіцца за гэты шанец пакінуць хоць нейкі сьлед на зямлі. На іх шчасьце, тамсама, у Гамбургу, ім нарапіўся беларускі палітэмігрант па мянушцы Акрабат, які ня толькі *sprechen si bjelarusisch*, але й трымцеў трохі на бас-гітары.

Вось так і зьявіліся яны, невядома адкуль, на "Басовішчы" ў 2000 годзе. А пасьля дыхтоўных песеньпрывітаньняў "Гэй, славяне!" ды "Радзіма-свабода" іх тамтэйшая тусоўка прыняла за сваіх, і *nacht ost* яны ехалі ў аўтобусе "БМАgroup", разам з "Крамай", "Exist'ам" ды "Зьнічом". Ну хто ж не пазнае Вольскага? Праўда, ніхто чамусьці не задумаўся, чаму такі самы Вольскі махаў аўтобусу ручкай...

Неверагодная гісторыя? Але я ўсё спраўдзіў: сапраўдны Лявон Вольскі ўжо даўна прызвычаіўся, што я блытаю яго зь Юрасём Ляўковым. І вось неяк падыходжу я ў лазьні да гэтага і кажу: "Юрась, дай агеньчыку

Вітаўт Мартыненка

прыпаліць". А ён як спалохаецца: *"Ich bin Lavon!"*

А тэксты ўсё ж сапраўды ня горай за Лявона піша. Нібыта ўвесь час тут сярод нас і жыў. Усё жыцьцё нашае ў гэтых тэкстах: "Баю-баю", "Танец сьмерці", "Хлопчык". Вось толькі "Незнаёмец" ды "La Bamba" крыху выдаюць замежнага выкармыша. Ну адкуль у нас такое:

*Позна вечарам у бары*
*Мы сустрэлі чалавека:*
*Ён пацягваў тэкілу,*
*Ён паліў сваю сыгару....*

Далей – болей, ня кажучы ўжо пра тое, што *"называўся ён Альмэга"*.

А то ж у нас у барах Альмэгі з цыгарамі бегаюць? Хоць, зрэшты, дапусьціць можна. Тэарэтычна. І яшчэ. Калі купіце гэты альбом, я нават не бяруся прадбачыць, што зойме ў вас болей часу: слуханьне дыску ці чытаньне буклету. І ў тым, і ў другім ёсьць асобная асалода. Хайль Беларусь!




## "Deviation", "Эўрапейскія апачы" Darbouka records, 2000

*Як мы на пару гадоў адстаем у асэнсаваньні эўрапейскага року, так і Эўропа на пару гадоў спазьняецца з асэнсаваньнем року беларускага. Вось і французская фірма "Darbouka records", атрымаўшы на рэцэнзію супэргіт-98 ад "БМAgroup" – касэтку гарадзенскага панк-гурту "Deviation", – толькі праз паўтара году разрадзілася вось такім зграбненькім прадуктам. Але ж разрадзілася. І гэта другі посьпех беларускага року пасьля выхаду альбому "Vodka on Ice" гурту "Крама" ў Вялікай Брытаніі (RTXrecords, 1993).*

Праўда, калі "Крама" была вымушаная прытрымлівацца ўмоваў кантракту, скіраванага на стварэньне англамоўнага прадукту, дык французы зрабілі сваё выданьне шчэ больш беларускім, чымся яно было на радзіме.

Па-першае, калі загалоўкам менскага выданьня стаў расейскі мат, дык французы ўвогуле не далі на вокладцы кампакту ніякага назову, хоць у каталёгі тамтэйшых крамаў ён трапіў, паводле першага трэку, як "Эўрапейскія апачы". Выкінулі французы – якія тонкія знаўцы! – усе небеларускія песьні: расейскія "Из разбитого стекла", "Новые времена" ды польскія "Prostytucja", "Utopia", а да кожнага з апублікаваных пазасталых (беларускамоўных) тэкстаў у сьціплым буклеце далі англамоўны (???) падрадкоўнік.

Вядома, беларуская мова ў французаў жудасная – прапушчаныя словы ў тэкстах, пераблытаныя літары ("Л" замест "П" або "И" замест "Ы"), але весела чытаць у зносках тлумачэньні незразумелых шэраговым французам словаў: аказваецца, *kolhoznik* – гэта селянін, які працуе на дзяржаву ў калектыўнай гаспадарцы, а *Pazniak* – гэта лідэр беларускай апазыцыі, які ўцёк у ЗША.

Зь вялікай асалодаю чытаў я (а слухаў – яшчэ раней) ангельскі тэкст знакамітай ужо кампазыцыі "Здрайца":

*Again the president's television is telling lies*
*Again the president's radio is telling crap*

Бо ж, калі памятаеце, на мове арыгіналу сынонімам слова "лжэ" зноў-ткі стаў расейскі жаргон.

Зрэшты, тут французы наўрад ці адчуюць праблемы з асэнсаваньнем, а вось у "Апавяданьні пра апошняе лета" (гаворка ідзе пра гарачае беларускае лета 97-га) дарэмна беларускую *harelku* пазначылі чужым паняткам vodka, а зьдзеклівую панкаўскую трасянку "труна вождя" ператварылі ў афіцыёзны *coffin of the leader*. Дый у тых жа "Эўрапейскіх апачах" ці зразумеюць французы, чаму "we'll paint the war sign with red and white colours", калі на кожным спартовым мерапрыемстве, дзе выйграюць беларусы, ушаноўваюцца чамусьці "red and green colours"? Вось тут бы й спатрэбілася зноска. А сама песьня – гэта 8 хвілінаў геніяльнай панкаўскай дзіды ў сэрцы здраднікаў – і ў сэнсе





Вітаўт Мартыненка

мэлёдыкі, і ў сэнсе выразна акрэсьленага вакалу ды інструмэнтальнае напругі.

Але вось ужо зусім дзіўнае адбылося з кампазыцыяй "Беларуская восень": пад радком назову "Belarussian autumn" нечакана знаходзім "no lyrics available in English". Ну як тут не прыгадаць рэцэнзію С. Сахарава ў часопісе "Post'R" (2001, № 1): "Якая ж багатая ты, матчына мова, на якой пісалі свае клясычныя творы "Мроя" й "Бонда", што ў ангельцаў нават словаў не стае, каб цябе перакласьці".

Жарты жартамі, але дзіўна, чаму французы не адужалі такія простыя словы:

*Мая айчына, мой народ*
*Зьняважаны, зьняволены.*
*Мая Айчына, мой народ*
*Прыніжаны, аплёваны.*

Пагартаўшы буклеты амэрыканскіх выданьняў альтэрнатыўнае музыкі, я знайшоў падобныя і нават вельмі блізкія думкі ў тэкстах гурту "Galloping Coroners":

*My sweet nation, motherland,*
*Motherlanguage, native land*
*In my heart*
*Where I came from Nature,*
*From Golden Age...*

Праўда, другі тэкст больш аптымістычны, але ў абодвух адчуваецца неабходнасьць памятаць пра залаты век таго народу, зь якога ты выйшаў, і ўжо ні ў якім разе не дазваляць яго downtrodded. Пра што і клапоцяцца анарха-панкі з Горадні, якія выступаюць пад назовам "Deviation". І самае важнае, што праз Інтэрнэт (darbouka@netcourrier.com) цяпер іхняя нераўнадушная пазыцыя даступная ўсяму сьвету. І беларусы Амэрыкі й Канады ўжо са сьвістам тузаюць дзьверы згаданай французкай e-mail-крамы. Што ж, багатыя могуць сабе гэта дазволіць. А дурныя хай слухаюць Клуню Буланаву.

# Пра злыя вірусы

Мікалай Беляўскі

*Як вы адкажаце на пытаньне: "Што зьвязвае ваш кампутар і 26 красавіка?" Правільна, ужо трэці год у гэты дзень вірус "Чарнобыль" ходзіць па плянэце, зьбіраючы свае ахвяры. Аднак пацярпець ад яго цяпер, дзякуючы сучасным высілкам антывірусавых кампаніяў, магчыма хіба што праз уласную дурасьць. Але ж "Чарнобыль" – не адзіны. А можа, вы лічыце, што кампутаровыя вірусы не нясуць адчувальных стратаў? У такім выпадку вы ня маеце рацыі, бо ў наш час кампутары – паўсюль: у аэрапортах, шпіталях, на вытворчасьці. Таму зьнішчэньне важнае інфармацыі – гэта ня толькі грашовыя страты, але й магчымыя чалавечыя ахвяры. А што вы скажаце, калі вірус зьнішчыць унікальны фатаздымак вашае сям'і ці спраўныя паперы? Альбо нават пашкодзіць ваш кампутар, за які вы аддалі гэтулькі грошай? Няма сумневу, вірусы шкодныя. Пагаворым жа пра тое, як іх пазьбегнуць.*

У барацьбе зь вірусамі былі й застаюцца дзейснымі дзьве мэтоды: праверка кампутара антывірусам з наступным лекаваньнем і рэзэрвовае капіяваньне важных дадзеных (backup). Такім чынам, мэтода першая.

## АнтыВірусы

Бясспрэчна лепшымі антывірусамі на сёньня ёсьць наступныя:

***1. "Antiviral Toolkit Pro" ад "Kaspersky Lab" (www.kasperskylab.ru).***



Гэта самы вядомы ў нашай краіне і ва ўсім сьвеце антывірус. Яго стваральніка Яўгена Каспэрскага заслужана ўважаюць за вядучага экспэрта па вірусах.

Вартасьці: *даступнасьць, сапраўды народная папулярнасьць, выдатная якасьць працы, антывірусавыя базы аднаўляюцца часта, існуюць вэрсіі для некалькіх апэрацыйных сыстэмаў (прыкладам, для Linux).*

Хібы: *ня ёсьць бескаштоўным, на слабых кампутарах можа адчувальна тармазіць сыстэму.*

***2. "Doctor Web" ад "Диалог-Наука" (www.drweb.ru).***




Яшчэ адзін папулярны расейскі антывірус. Першая ягоная вэрсія зьявілася вельмі даўна, яшчэ ў часы паўсюднага гаспадараньня 2-х і 386-х кампутараў. Потым антывірус удасканальваўся і набыў, нарэшце, свой сучасны выгляд.

Атрымліваў прызы на міжнародных конкурсах антывірусавых праграмаў.

Вартасьці: *даступны, бескаштоўны, антывірусавыя базы аднаўляюцца.*

Хібы: *ве-е-ельмі марудны запуск (пры старце доўга правярае сыстэмную памяць), бескаштоўная вэрсія мае істотныя абмежаваньні (усёткі трэба нешта заплаціць для эфэктыўнага карыстаньня гэтай праграмай).*

***3. "Norton Antivirus" от "Symantec" (www.symantec.com).***

А гэтая праграма рэкамэндуецца тым, хто лічыць прадукт СНДоўскіх праграмоўцаў ненадзейным. Антывірус ад вельмі папулярнай у нас кампаніі




Symantec. Праграма надзвычай дыхтоўная. Гэта найлепшы антывірус для пляцформы NT. У камплекце з праграмай пастаўляецца кароткі даведнік па вірусах, якія яна ўмее лавіць.

Вартасьці: *праверaная часам надзейнасьць Symantec, ідэальная антывірусавая абарона для NT, даведнік па вірусах.*

Хібы: *для аднаўленьня антывірусавых базаў неабходна мець выйсьце ў Інтэрнэт, дый гэтая праграма нячаста сустракаецца.*

## Скуль жа бярэцца тая пошасьць?

Пра спосабы, вартасьці й хібы разнастайных мэтодаў рэзэрвовага капіяваньня можна казаць вельмі доўга, але гэта – асобная тэма, якую мы яшчэ абмяркуем. А цяпер – пра сам "корань зла".

**Як вірусы трапляюць у кампутар?**

а) Празь Інтэрнэт пры скачваньні файлаў і зносінах у IRC-чатах, пры неахайным карыстаньні электроннай поштай (усе, мабыць, памятаюць мінулагоднюю эпідэмію "LoveLetter", а ці тое яшчэ будзе!). Вірусы напоўніцу выкарыстоўваюць разнастайныя прарэхі ў праграмовым забесьпячэньні, а таксама чалавечы чыньнік (самы сьвежы прыклад – "AnnaKournikova"). Так што калі вы знойдзеце ў сваёй паштовай скрыні ліст з прапановаю знаёмства, працы і да т.п., якога вы не чакалі, то праверце яго антывірусам са сьвежымі базамі. Навучыце гэтаму ўсіх, хто карыстаецца вашым кампутарам для атрыманьня пошты. Што тычыцца файлаў, то яны таксама абавязкова падлягаюць праверцы, нават пры атрыманьні іх з сайтаў салідных кампаніяў (вядомыя выпадкі выкрыцьця вірусаў на адным з файлаў на Microsoft і ў паштовай рассылцы некаторых буйных кампаніяў). Цалкам бясьпечнымі ёсьць **толькі** сайты антывірусавых кампаніяў. Вядомыя, аднак, выпадкі рассылкі лістоў з укладзенымі вірусамі пад выглядам паведамленьняў ад барацьбітоў з тымі самымі вірусамі. Памятайце, што салідныя кампаніі спамам (spam) не займаюцца.

б) Праз дыскі з праграмовым забесьпячэньнем, асабліва пірацкія. Некаторыя вірусы – прыкладам, згаданы вышэй "Чарнобыль" – памнажаюцца зь імгненнай хуткасьцю, таму вядомыя выпадкі, калі прадаваліся дыскі, на якіх не было ніводнага "здаровага" файлу. Самае непрыемнае адбывалася пры заражэньні файлу, адказнага за аўтазапуск дыску, бо калі вірус месьціцца ў нейкай з тэчак, то існуе верагоднасьць, што вы ніколі не зацікавіцеся яе зьмесьцівам, аднак пры аўтазапуску гэтага дыску ўсе файлы на вінчэстэры апыналіся заражанымі. Таму калі вам натрапіўся цікавы дыск, не сьпяшайцеся ў яго лезьці – папярэдне праверце на вірусы.

Наагул, кардынальным вырашэньнем гэтае праблемы ёсьць заўсёдная прысутнасьць у памяці вашага кампутара адмысловае праграмы – антывірусавага вартаўніка, які пастаўляецца ў камплекце зь любым нармалёвым антывірусам (прыклады – вышэй). Гэта таксама дапаможа блякаваць вірус, калі ён раптам прачнецца.

в) Праз кампутары агульнага карыстаньня – ва ўнівэрсытэтах, на працы, у школках. Нярэдкія выпадкі, калі сын ці дачка прыносяць на дыскеце са школы вірус, які пасьля рас-







паўсюджваецца па сетцы на таткавай ці мамчынай фірме.

**Каму гэта патрэбна?**

Вірусы не нараджаюцца самі сабою, як некаторыя дагэтуль думаюць. І калі раней для стварэньня вірусу трэ было праліць шмат поту, правесьці нямала бяссонных начэй за клявіятурай, то цяпер, калі гэтак шырока распаўсюдзіліся макрамовы, напісаньне вірусаў зрабілася справай колькіх гадзінаў. Існуюць нават адмысловыя канструктары вірусаў, якія дазваляюць задаць характарыстыкі вірусу і адразу атрымаць гатовы "прадукт". Што ж штурхае людзей на такую няўдзячную, а да таго ж небясьпечную (шмат у якіх краінах гэта пагражае крымінальнай адказнасьцю) працу? Існуе некалькі прычынаў:

1) Імкненьне да славы, жаданьне паказаць усім свае здольнасьці ці каму-небудзь насаліць – вось якімі прычынамі кіруецца першая катэгорыя стваральнікаў вірусаў. Збольшага гэта маладыя людзі – студэнты й школьнікі. І менавіта яны найчасьцей карыстаюцца згаданымі вірусавымі генэратарамі.

2) Непрызнаньне грамадзкіх законаў і зноў жа імкненьне да вядомасьці – вось галоўныя стымулы другой катэгорыі. Менавіта такія людзі ствараюць большасьць вірусаў.

3) Праграмоўцы-экспэрымэнталісты ствараюць вірусы для пошуку слабых месцаў сыстэмы альбо для ўдасканаленьня свайго майстэрства. Звычайна яны ня маюць на мэце ўчыніць шкоду, таму створаныя імі вірусы, як правіла, не пакідаюць межы іх кампутараў.

**Як даведацца, ці заражаны кампутар?**

Самы надзейны спосаб даведацца пра гэта – праверыць свой кампутар антывірусам са сьвежымі базамі. Але гэта можа й не спрацаваць, калі вірус, што вам натрапіўся, яшчэ ў тыя базы не занесены. У гэтым выпадку могуць дапамагчы наступныя прыкметы вірусавае актыўнасьці:

а) запаволеньне працы кампутара, зьяўленьне на экране незразумелых вокнаў, відэаэфэктаў; зьмена малюнка на працоўным стале, колеравай схемы, імя зарэгістраванага карыстальніка; незразумелыя гукавыя эфэкты (напрыклад, граньне "Да Элізы" ў сыстэмным дынаміку);

б) вам паведамляюць пра атрыманьне лістоў, адпраўленых з вашага кампутара, пра якія вы нічога ня ведаеце;

в) зьяўленьне файлаў зь непаразумелымі імёнамі ў карнявым каталёгу дыску, у сыстэмнай тэчцы альбо ў тэчцы з усталяванымі праграмамі;

г) незразумелае зьнікненьне з вашага вінчэстэра якіх-небудзь важных файлаў;

д) пры старце кампутара безь відавочных прычынаў не запускаецца ўсталяваны антывірусавы манітор ці сканэр;

е) зьяўленьне ў загрузачнай сэкцыі рэестру Windows запісаў пра дзіўныя праграмы;

ж) выкарыстаньне вашага паролю для доступу ў Інтэрнэт альбо іншай канфідэнцыяльнай інфармацыі. Існуюць вірусы, званыя "траянскімі коньмі", якія здольныя красьці важную інфармацыю і пасылаць яе каму-небудзь па сетцы;

з) пункт мэню "Макрасы" недаступны ў дадатках Office. Немагчымасьць канвэртацыі файлаў Office у йншы фармат.

*Памятайце, што прыведзеныя вышэй прыкметы зусім ня ёсьць важкімі доказамі прысутнасьці вірусаў у сыстэме, а хутчэй могуць толькі ўскосна сьведчыць пра вірусавую актыўнасьць.*

## На толькі вірусы...

А цяпер крыху пра дзьве цікавыя зьявы, зьвязаныя зь вірусамі:

1) Праграмы-жарты. Цікава, што вы падумаеце, калі кнопка "Пуск" раптам уздымецца са свайго наседжанага месца і паляціць па экране, імкнучыся пакінуць як мага болей піксэляў паміж курсорам і сабой, ды яшчэ й будзе весела памахваць крыльцамі? А калі курсор пачне самастойна перасоўвацца па экране, даючы адпачынак стомленым ад напружанага сьцісканьня мышкі рукам карыстальніка? Вірус – скажаце вы. Не – кампутаровы жарт. Адрозьненьне ў тым, што гэтыя праграмы ня могуць памнажацца самастойна і ня чыняць шкоды вашым дадзеным. Буйныя антывірусавыя кампаніі імкнуцца па магчымасьці занесьці гэтыя праграмы ў свае антывірусавыя базы, але гэта амаль нерэальна, таму з кампутаровымі жартамі даводзіцца мірыцца.

2) Вірусавыя містыфікацыі. А што вы падумаеце, калі знойдзеце ў сваёй скрыні ліст наступнага зьместу: зьявіўся новы страшны-страшны вірус, пра яго пакуль ніхто ня ведае, таму папярэдзьце сваіх знаёмых і г.д., і г.д.? Не сьпяшайцеся турбавацца – гэта ўсяго толькі жарт, кампутаровая містыфікацыя (computer hoax), якая тлумачыцца жаданьнем выклікаць вірусавую істэрыю. Галоўнае – не паддавацца паніцы і нікуды нічога не адпраўляць. А лепей за ўсё наведаць сайт антывірусавае кампаніі і пагледзець навіны. Аднак часам гэтыя містыфікацыі ладзяць самі антывірусавыя кампаніі, каб выціснуць з карыстальнікаў як паболей грошай. На жаль, бываюць і памылкі. Напрыклад, першыя паведамленьні пра "Чарнобыль" таксама спачатку прынялі за жарт – настолькі неверагоднымі зда-

Мікалай Беляеўскі

валіся паведамленьні пра яго ныя характарыстыкі. Так што давярай, але правярай.

## Што рабіць, калі гэта здарылася?

Самае галоўнае – не панікаваць. Вы ня першы, каго напаткала такая бяда. Вам жа вірус дакладна не перадасца! Перш за ўсё, неабходна як мага хутчэй выключыць кампутар, прычым зрабіць гэта не праз каманду "Выключыць кампутар", але націснуўшы Reset. Аднак гэтую апэрацыю **вельмі непажадана** рабіць, калі ідзе запіс нейкіх дадзеных на дыск. Можаце згубіць усе дадзеныя, якія захоўваюцца ў вас на дыску, праз разбурэньне файлавае сыстэмы. Пасьля перазагрузкі неабходна дастаць стэрыльную (у сэнсе, бязь вірусаў) загрузачную дыскету і, папярэдне ўпэўніўшыся, што яна зачыненая ад запісу і ў BIOS Setup устаноўлены парадак загрузкі кампутара з дыскеты, загрузіцца ў DOS. Калі ў вас няма такой дыскеты – схадзіце да сябра і зрабіце яе ("Пуск–Настройка–Панэль кіраваньня–Усталяваньне і выдаленьне праграмаў–Загрузачны дыск") у Win 9x. Яшчэ спатрэбіцца дыскета з антывірусавым сканэрам для DOS (гэтыя ўтыліты ўваходзяць у камплект апісаных вышэй антывірусаў). **Памятайце:** зь вінчэстэра заражанага кампутара да праверкі антывірусам нельга запускаць аніякія праграмы, інакш наступствы могуць быць яшчэ горшыя.

## Калі здарылася найгоршае

Калі ж кампутар сустракае вас цалкам чорным экранам, гэта значыць, што вы згубілі ўсе свае дадзеныя. Абавязкова зьвярніцеся да спэцыяліста, прычым да добрага. Хаця, мяркую, вы й самі ў стане адэкватна ацаніць каштоўнасьць сваіх дадзеных. У любым выпадку ня думайце, што ўсё скончана – інфармацыю можна аднавіць, і цалкам пасьпяхова.

■

# Чароўнае ператварэньне, або Як зь Вісьлера атрымаўся XP

X deamon

...Ноч, цішыня наўкола, з навушнікаў гучыць прыемная мэлёдыя, у трэі* вясёла мільгацяць агеньчыкі лякальнай сеткі ды Інтэрнэту, рукі бегаюць па клявіятуры – прыгажосьць ды спакой! Раптам Ася** разьбівае яшчэ адну пляшку піва, зьдзіўлена ўскрыквае, і зьяўляецца паведамленьне: "Windows XP фінальная скрадзена!" Усё! Лёс мой на сёньняшнюю ноч вырашаны – ізноўку спаць не давядзецца. Прынесшы зь лядоўні чарговую пляшку піва, я сустаргава пачынаю спаць мэйлы ды лётаць па ўсялякіх віртуальных тусоўках у пошуку больш падрабязнай інфармацыі. І высьвятляецца, што фінальная вэрсія Microsoft Windows XP, гэтаксама вядомая як Windows Whistler, была скрадзеная хакерамі ў адной з буйных кампутаровых фірмаў, куды яна патрапіла ад прадстаўнікоў "Майкрасофту". Чакалася, што кампутары з гэтай апэрацыйнай сыстэмай будуць выпускацца не раней за кастрычнік, але лёс склаўся так, што хрусь – і аблом!..



*Windows Whistler – наступная пасьля Windows 2000 пляцформа. Яна будзе існаваць як у 32-бітнай вэрсіі (для большасьці існых працэсараў), так і ў 64-бітнай (для новых працэсараў Пэнтыюм-4). Нагадаю, што цалкам 32-бітнай была толькі Windows 2000. Гэтаксама Whistler плянавалася як сыстэма ня толькі для бізнэсу, але й для хатняга карыстаньня, для чаго трэба было зрабіць яе больш юзабэльнай (зручнейшай у выкарыстаньні) і прыгажэйшай. Але так, каб яна засталася надзейнай, хуткай ды стабільнай, як Windows 2000.*

Што ж з гэтага атрымалася? Першыя бэта-вэрсіі (для тэставаньня) былі больш юзабэльнымі, але, мякка кажучы, нестабільнымі, тармазнутымі. Адзін мой сябар неяк вырашыў (пэўна, на п'яную галаву), што яму жыцьцёва неабходна абнавіць апэрацыйную сыстэму на кампутары. Ён выкінуў сваю Лінукс і паставіў апошнюю бэта-вэрсію Whistler. Самае цікавае, што комп ягоны – лякальны сэрвэр, які, да таго ж, быў шлюзам у Інтэрнэт. Вісьлер стаяла цэлы дзень, а ўначы, як кажуць праграмэры (дый увогуле большасьць карыстальнікаў), "упала", "бабахнулася", "павесілася". А павесілася яна так, што беднаму сябру давялося наноў ставіць






Лінукс. Больш ён да таго Вісьлера і блізка не падыходзіў.

Але час ішоў, дзядзька Більлі Гейтс энд кампані працаваў і працаваў. У выніку бэта-вэрсіі сталі больш надзейнымі й менш глючнымі, а сама Windows зьмяніла назву з Whistler на XP. Таксама ў гэтай вэрсіі, акрамя сэрыйнага нумару, абавязковай была актывацыя Windows. Гэта значыць, трэ было зайсьці на сэрвэр Microsoft і атрымаць там дазвол на выкарыстаньне копіі (гэта калі казаць спрошчана, насамрэч жа ўсё значна складаней). Для лепшага прыстасаваньня сыстэмы да канкрэтных задачаў былі створаны Windows XP Professional і Windows XP Home. Многія карыстальнікі сталі ставіць сабе бэта-вэрсіі. Хакеры знайшлі спосабы пазьбягаць актывацыі, зьявіліся крэкі, патчы – карацей, працэс ішоў. Я ж сядзеў за сваёй улюбёнай Windows 2000 Advanced Server ды чакаў фінальнага рэлізу...

Дачакаўся. Рэліз выйшаў, аднак ён быў дадзены толькі найбуйнейшым фірмам-вытворцам кампутараў, а просты карыстальнік павінен быў чакаць афіцыйнага выхаду яшчэ два месяцы.

І тут – бабах!!! Хакеры скралі Windows за два месяцы да афіцыйнай прэзэнтацыі! Вядома ж, я актыўна пачаў шукаць гэты фінальны рэліз, і 4 верасьня копія кампакт-дыску ляжала на маім вінчэстэры, перапісаная ў аднаго сябра зь Піцеру (цэлую ноч празь Інтэрнэт скачваў). Я яе запісаў на кампакт (добра мець CD-райтэр) і вырашыў ставіць.

## Усталяваньне Windows XP

X deamon

Захаваўшы існую апэрацыйную сыстэму, я дрыготкімі рукамі запусьціў дыск. Зьявілася мэнюшка ўсталяваньня. Ня доўга думаючы, я выбраў першы пункт – Інстал (усталяваць), націснуў кнопку "абнавіць з папярэдняй вэрсіі", увёў сэрыйны нумар, і зьявілася вакно ўсталяваньня. Праграма скапіявала неабходныя файлы на вінчэстэр, кампутар перазагрузіўся, і ўсталяваньне працягвалася далей. Прычым падчас гэтых дзеяньняў я нічога не рабіў (канечне, калі ўлічыць, што піць піва – гэта ня праца, а адпачынак).

На ўсё ўсталяваньне з моманту запуску кампакт-дыску спатрэбілася каля 40 хвілінаў, што можна параўнаць зь Windows 2000 дый астатнімі пляцформамі.

І вось усталяваньне скончанае, сыстэма запускаецца, і – вуаля! – чорны экран... Але ж не, нешта прасьвечваецца! Ага! Гэта новы наварот ад дзядзькі Більлі і кампаніі – на экране паступова зьяўляецца лягатып Windows XP (а я думаў – завісла...). Шчыра кажучы, мне спадабалася. Пара сэкундаў – і сыстэма прапануе ўвесьці пароль для ўваходу. Уводжу пароль, і загружаюцца асабістыя настройкі (таму што я ставіў Windows XP на існую апэрацыйную сістэму, дзе гэтыя настройкі ўжо былі; калі ж ставіць упершыню, давядзецца ўсё рабіць з нуля). Вось і я цяпер перадавы карыстальнік!

*(працяг будзе)*

* Тое, што на маніторы ўнізе справа.

** Ася – інтэрнэт-пэйджэр ICQ. "Разьбівае яшчэ адну пляшку піва" – калі нейкі чалавек, зарэгістраваны ў сьпісе кантактаў ICQ, уваходзіць у сетку, праграма выдае гук, нібыта разьбіваецца пляшка. "Зьдзіўлена ўскрыквае" – калі нехта дасылае табе паведамленьне, праграма суправаджае яго прыход гукам, падобным да ўскрыку зьдзіўленьня.

■

# “АЭРАТУР”

**К.Маркса, 26**
**Менск, 220050**
**РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ**

## Папярэдняя замова і продаж авіяквіткоў:

**К.Маркса, 26, тэл. 227-26-83;**
**аэрапорт “Менск-1”,**
**тэл. 222-50-67, 222-50-68**

## Адпачынак, турызм, лекаваньне:

**тэл. 227-28-03, 229-21-88, 229-20-24**

Візавая падтрымка: **тэл. 229-20-24**

## Памер гэтага аўтамабіля паказвае колькасьць грошай, якія вы можаце згубіць.

Памер гэтага аўтамабіля паказвае колькасьць грошай, якія вы выдаткуеце, каб застрахавацца.*

● Страхаваньне ад няшчасных выпадкаў і мэдычнае страхаваньне тых, хто выяжджае за мяжу, у тым ліку і ў выглядзе комплекснага страхаваньня ● Страхаваньне адказнасьці аўтаперавозьнікаў і экспэдытараў (на ўмовах Канвэнцыяў CMR і TIR) ● Страхаваньне адказнасьці ● Страхаваньне грамадзянскай адказнасьці ўладальнікаў аўтатранспарту ● Страхаваньне каско транспартных сродкаў і каско паветраных судоў ● Страхаваньне маёмасьці прадпрыемстваў і арганізацый ● Страхаваньне грузаў ● Добраахвотнае сэрвіснае мэдычнае страхаваньне ● Страхаваньне дадатковых пэнсіяў ● Страхаваньне фінансавае рызыкі ● Страхаваньне касаў ● Страхаваньне хатняе маёмасьці ● Страхаваньне будынкаў грамадзянаў

**БРОЛЛИ**
СТРАХАВАЯ КАМПАНІЯ

**220030, Менск, вул. Ульянаўская, 31**

* Падрабязна пра ўмовы зьдзелак Вы зможаце даведацца, патэлефанаваўшы нам: **(017) 222-47-45, 222-48-73. Факс (017) 222-47-46**

**“ДААС” - аўтарызаваны дылер кампаніі LEXMARK**

***4 ГАДЫ АПТЫМІСТЫЧНАГА ПАДЫХОДУ ДА "PC" - МІСТЫЧНЫХ ПРАБЛЕМАЎ***

Тэл/факс
**269-10-50, 266-95-61**
**268-38-20, 285-61-71**

*www.daascom.com*
*E-mail: Daas@daascom.com*

DaaS computers

## Кампутары

Самыя надзейныя кампутары, сабраныя адмыслова для ВАС - зыходзячы з ВАШЫХ патрэбаў і не забываючыся на ВАШЫЯ магчымасьці. ВЫ можаце мадэрнізаваць ВАШ кампутар і быць у курсе апошніх тэхнічных навінак.

## Камплектуючыя

Самыя “сьвежыя” камплектуючыя па самых даступных коштах ад вядучых вытворцаў Intel, AMD, 3Com, US Robotics і інш. У нас шмат чаго ёсьць!

## Маніторы

Маніторы на любы густ, самыя апошнія мадэлі ад Samsung, ADI, SONY, ProView. Парадуйце вока добраю выявай!

## Друкаркі LEXMARK

Надзейныя і практычныя мадэлі струмянёвых і лазэрных друкарак! Ніколі яшчэ друк ня быў такі эканамічны !

## Выдатковыя матэрыялы

Картрыджы, тонэры, запраўкі. Аднаўленьне і запраўка лазэрных і струмянёвых картрыджаў Lexmark, HP, Canon і інш.

## Кампутаровая мэбля

Надзейнасьць, практычнасьць, прыгажосьць, камфорт - фірмовы стыль “Даас”. Геніяльныя думкі прыходзяць у галаву, калі зручна сядзіш!

☑ Індывідуальны падыход да кліента
☑ Бескаштоўныя тэхнічныя кансультацыі
☑ Вырашэньне любых “кампутаровых” пытаньняў
☑ Бескаштоўная дастаўка

**Гарантыя якасьці**

**Студэнтам % зьніжкі**

**“ДААС” - аўтарызаваны дылер кампаніі LEXMARK**